ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 5 (2407) 2 лютага 1995 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 100 рублёў.

ЯНКА ЖУЧКА: "УВЕСЬ НАШ СЁННЯШНІ КЛОПАТ -- НАША БАЦЬКАЎШЧЫНА!"

## ДРУГОЙ ТАКОЙ КРАІНЫ НЯМА

*З беларусам з Бельгіі Янкам ЖУЧКАМ, які напрыканцы мінулага года наведаў Беларусь, гутарыць карэспандэнт "Голасу Радзімы" Таіса БАНДАРЭНКА.*

*-- Спадар Жучка, вельмі прыемна вас зноў вітаць у Беларусі. Прайшло амаль паўгода з часу вашага апошняга візіту ў Мінск, але падзей і змен за гэты перыяд у нас адбылося даволі шмат. Цікава было б пачуць меркаванні чалавека, які глядзіць здалёк на ўсё, што адбываецца ў Беларусі.*

-- Павінен зазначыць адразу, што ўражанні ад цяперашняга візіту даволі сумныя. Зараз я заўважаю хутчэй крокі назад, чым наперад. Справа ў тым, што, калі я першы раз прыехаў на радзіму, падчас Першага з'езда беларусаў свету, мне падалося, што зрухі наперад у адносінах беларускай мовы ёсць. Летась у чэрвені, калі ўдзельнічаў у міжнароднай канферэнцыі "Культура беларускага замежжа", я ўжо нават адчуў першыя вынікі гэтых зрухаў. А вось цяпер, мне здаецца, усё пайшло ў адваротны бок. Прычым паўсюль. Нават на дзяржаўным радыё і тэлебачанні, у прэсе руская мова зноў выцясняе беларускую. У мяне была сустрэча з выкладчыкам Акадэміі мастацтва, дзе ўжо пэўны час ідзе выкладанне на беларускай мове, дзе студэнты таксама выкарыстоўвалі родную мову. І раптам адзін настаўнік кажа, што яго зноў прымушаюць перайсці на рускую мову.

*-- Хто прымушае?*

-- Хто? Вучні! Гэта базуецца толькі на тым, што было сказана зверху: у такіх установах можа ўжывацца цяпер і расійская мова. Мяне гэта вельмі турбуе, і тут я бачу крок назад. Пацвярджэннем таму можа быць і прамова спадара Прэзідэнта Лукашэнкі ў Акадэміі навук Беларусі, якая мяне вельмі засмуціла. У ёй ён на ўвесь свет адкрыта сказаў, што ў акадэміі мусіць быць расійская мова, як прызнаная ва ўсім свеце. Вось і ёсць для некаторых падстава хуценька перайсці на расійскую мову. Але чаму тады не на англійскую, як сапраўды сусветную мову?

*-- Спадар Янка, вы жывяце ў Бельгіі. Часам менавіта Бельгію ў нас падаюць як прыклад двухмоўя.*

-- Так, я ведаю некаторых прыхільнікаў двухмоўя ў Беларусі, якія выкарыстоўваюць прыклады і Бельгіі, і Канады, і Швейцарыі. На жаль, гэта сведчыць толькі аб недакладнасці іх ведаў. Ва ўсіх гэтых краінах двухмоўе грунтуецца зусім на іншых падставах. Патлумачу гэта на прыкладзе Бельгіі, у якой, дарэчы, не дзве, а тры дзяржаўныя мовы, бо на мяжы з Германіяй ёсць невялікая частка насельніцтва, дзе нямецкая мова таксама мае статус дзяржаўнай. У Бельгіі трохмоўе тлумачыцца выключна этнічнымі падставамі. Тут ёсць сэнс трошкі прыгадаць гісторыю краіны, бо яна падобная і на нашу гісторыю. Сённяшні фламандскі рэгіён Бельгіі быў некалі дамініраваны французамі: каля 150 гадоў, аж да нядаўняга часу, фламандцы змагаліся за сваю мову, культуру, гісторыю. Сёння вы ўжо тут не ўбачыце нават шыльдаў на дзвюх мовах. Фламандцы дамагаліся поўнай незалежнасці, і вас ніхто не зразумее, калі вы прыйдзеце ў нейкую ўстанову і скажаце, што ведаеце толькі французскую і не ведаеце фламандскай мовы. У Валоніі ж ужываецца толькі французская мова. Такой блытаніны, як у Беларусі, там няма.

*-- Дык на якой жа мове размаўляе тады ўрад?*

-- Бельгія ёсць федэральная дзяржава. Але кожны рэгіён мае сваю ўправу: у валонскім парламенце выкарыстоўваецца толькі французская мова, у фламандскім -- толькі фламандская. Ёсць і федэральны ўрад, куды ўваходзяць прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў. А таму толькі ў Бруселі, які мае асобы статус, ужываецца шматмоўе, і служачыя, і чыноўнікі павінны ведаць некалькі моў. Тое ж тычыцца і федэральнага прэм'ер-міністра, які, хоць і ёсць фламандскага паходжання, але ў залежнасці ад абставін карыстаецца рознымі мовамі. Хачу адзначыць, што я не ведаю ніводнай краіны ў свеце, дзе б прэзідэнт дзяржавы не размаўляў на сваёй роднай мове. Было б вельмі добра, каб беларусы ўзялі для сябе прыклад фламандцаў і атрымалі такую ж незалежнасць як у мове, так і культуры. Зразумела, тут трэба пераадолець шмат цяжкасцей.

*-- Адна з такіх цяжкасцей крыецца, на маю думку, у падабенстве рускай і беларускай моў.*

-- Я гэта разумею. Горш, што такое ўяўленне выйшла далёка за межы Беларусі. Нават у замежжы мне часам даводзіцца пачуць, што беларуская мова і культура штучна ўтвораны ў 1917 годзе. Чытаю артыкул у бельгійскай газеце пра Беларусь. Але тую частку, якая тычыцца гісторыі, проста немагчыма было чытаць.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

### ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Мінск. Раён вуліцы Няміга. Фота Віктара СТАВЕРА.

УЛАДЗІСЛАЎ СТРЭМІНСКІ, ПАПЛЕЧНІК КАЗІМІРА МАЛЕВІЧА

## У МІНСК ШЛЯХАМІ БАЦЬКІ

Калі не стрымліваць свае шчырыя мары холадам цвярозага разліку і не падвяргаць сумненням, то яны збываюцца. Як, напрыклад, гэтая сустрэча, якая раней у фантазіі набывала ўсё больш смелыя формы. Думалася аб тым, як можна дапамагчы дачцэ славутага мастака наведаць радзіму бацькі -- Мінск. Але трэба распавесці ўсё па парадку.

Працуючы над матэрыяламі, прысвечанымі творчасці славутага Казіміра Малевіча, нечакана сустрэў прозвішча Уладзіслава Стрэмінскага, яго блізкага сябра і паплечніка. Гэта было яшчэ ў другой палове 80-х, калі і пра самога Малевіча толькі пачалі казаць з павагаю ў процівагу таму бруду і дэзінфармацыі, што не спынялася вакол яго імя дзесяцігоддзямі. Найбольш тады ўразіла, што невядомы мастак быў родам з Мінска і аб ім нічагусенькі ніколі не пісалі ў нашых выданнях па мастацтву.

Але не трэба палохацца невядомасці, а проста яе спрабаваць даследаваць. Калі ёсць жаданне даведацца, інфармацыя раней-пазней цябе знойдзе. Так і атрымалася. У выданнях па польскаму мастацтву першай паловы XX стагоддзя нечакана знайшоў кароткую інфармацыю пра мастака Стрэмінскага, які жыў і працаваў у Лодзі, дзе і адышоў з жыцця 26 снежня 1952 года. А нарадзіўся, як сведчаць усе замежныя крыніцы (бо творца вельмі вядомы на Захадзе), 21 лістапада 1893 года ў Мінску, ці Мінску Літоўскім, як па-рознаму пазначаюць назву нашае сталіцы замежныя даследчыкі.

А далей, напачатку 1991 года, адбылося нараджэнне мары аб сустрэчы з дачкой мастака. Для жыхароў Гродна ці Брэста глядзець польскае тэлебачанне -- рэч звычайная. Дзякуючы шчасліваму збегу абставін, наведаўшы Гродна, убачыў выпадкова, як у культурных навінах выступае па варшаўскай праграме дачка мастака Ніка Стрэмінская! Яна распавядала аб сваіх бацьках, якія былі абодва творцы-авангардысты, за што спазналі і вялікія рэпрэсіі, і заўчасна страцілі здароўе. Яна напісала кнігу аб іх, што ўжо тады выйшла ў свет пад назваю "Мастацтва, каханьне, нянавісьць", дзе паказвае іх жыццёвы і творчы лёс у складаных і драматычных абставінах, без усялякае ідэалізацыі. Гэта выклікала ў Польшчы даволі жывую рэакцыю, тым больш, што набліжалася 100-годдзе з дня нараджэння мастака. І тады менавіта ўзнікла надзея, каб запрасіць спадарыню Ніку ў Беларусь, на святкаванне юбілейнай урачыстасці ў Мінску. Вось толькі як наладзіць кантакты? Гэта вельмі элементарнае ў сённяшняй сітуацыі заданне. У Польшчу зараз з'ездзіць нескладана. А там, у коле кампетэнтных спецыялістаў, усе адзін аднаго ведаюць. У Лодзінскім музеі сучаснага мастацтва параілі з'ездзіць у Варшаву, дзе жыве спадарыня Стрэмінская, своеасаблівы сябра музея. Бо там знаходзіцца калекцыя прац яе бацькоў: Уладзіслава і Кацярыны Кобра, жонкі мастака. Тут, у Лодзі, і яна правяла сваё дзяцінства.



**НА ЗДЫМКУ: Уладзіслаў СТРЭМІНСКІ. Смаленск, 1921 г.**

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ВОСЬ МАСКВА--МІНСК





Адбыўся афіцыйны візіт міністра замежных спраў Расіі Андрэя Козырава ў Мінск. Мэта яго -- падрыхтаваць маючы адбыцца гэтай зімой візіт Барыса Ельцына ў Беларусь і падпісанне дагавора паміж дзвюма краінамі.

"Мы ідзем да эканамічнага саюза", -- заявіў пасля сустрэчы з А.Козыравым наш Прэзідэнт А.Лукашэнка. Пытанне, куды ідзе Беларусь, кінуўшыся ў абдымкі Расіі, настойліва гучала і на сустрэчы А.Козырава з беларускай інтэлігенцыяй. Але сустрэча з ёю, напэўна, была для расійскага міністра не такой прыемнай, як з А.Лукашэнкам.

"Трэба, каб расійскія палітыкі не падманвалі сябе тым, што ў Беларусі толькі і мараць аб'яднацца з Расіяй!" -- папярэдзілі А.Козырава прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі.

**НА ЗДЫМКАХ: на сустрэчы А.КОЗЫРАВА з беларускай інтэлігенцыяй у Доме літаратара ў Мінску.**

*"З самых першых дзён пасля абвяшчэння Беларусі суверэннай і незалежнай супраць нашай дзяржаўнасці пачалася зацятая вайна. Яе нахабна і цынічна вядзе "пятая калона", што складаецца з розных "сабораў", "рухаў", "саюзаў" і г. д. Стараюцца і многія адстаўнікі з усяго былога Савецкага Саюза, якія заўсёды выбіралі месцам жыхарства колісь каўбасную Беларусь, атрымалі тут без чаргі кватэры. Варожа ставяцца да нашай дзяржаўнасці людзі без роду і племя, што атабарыліся на гасціннай беларускай зямлі, для якіх няважна, дзе, якім чынам і за кошт каго і чаго наладжваць сыты дабрабыт, набіваць кішэні грашамі. Хапае агрэсіўных, ваяўнічых выпадаў і ад сваіх парламенцкіх і наменклатурных манкуртаў. Усім ім даспадобы былая або новая імперыя. І ў гэтым няма нічога дзіўнага, кожны з іх ваюе за ўласныя інтарэсы. Свядомых грамадзян Рэспублікі Беларусь абурае тое, што гэтыя антыканстытуцыйныя, падсудныя нападкі на Дзяржаву, на яе Сцяг, Герб, Мову адбываюцца па закону. Дык што, можа, і такое справядлівае абурэнне залічым у нацыяналізм?"*

*Сяргей ЗАКОННІКАЎ.*

ПОГЛЯД ЗБОКУ

### РАЗРЫЎ ПАВЯЛІЧВАЕЦЦА

У нямецкіх газетах абнародаваны даклад Інстытута эканамічных даследаванняў (горад Гале, ФРГ), прысвечаны эканамічным праблемам постсацыялістычных дзяржаў Усходняй Еўропы і СНД.

На думку нямецкіх эканамістаў, у большасці краін Усходняй Еўропы, а таксама ў Эстоніі ў 1994 годзе назіраўся ўстойлівы рост вытворчасці. У той жа час у Расіі, на Украіне і ў Беларусі адбываўся яе спад. Такім чынам, у галіне эканамічнага развіцця разрыў паміж гэтымі групамі краін пастаянна павялічваецца.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

### ГЕРМАНІЯ ПАСЛЯ РАСІІ

Высокую адзнаку атрымала беларуска-германскае супрацоўніцтва на рэспубліканскім метадычным семінары, арганізаваным Саюзам прадпрымальнікаў рэспублікі.

Паводле ацэнак беларускіх і нямецкіх экспертаў, пасля Расійскай Федэрацыі Германія стала другім замежным партнёрам нашай рэспублікі ў гандлёва-эканамічнай дзейнасці. Агульная сума прамых германскіх інвестыцый у беларускую эканоміку ў мінулым годзе склала 3,5 мільёна марак ФРГ.

Удзельнікі семінара ацэньваюць перспектывы супрацоўніцтва ў 1995 годзе даволі аптымістычна.

РЭХА

### ПАРАДА ДЗЯРЖДУМЕ РАСІІ

"Мы раім вам накіраваць свае намаганні на як мага хутчэйшае спыненне агрэсіі ў Чэчні, як гэта робіць дэпутат вашай Думы Сяргей Кавалёў, а не займацца стварэннем новай імперыі. І жадаем Расіі стаць дэмакратычнай дзяржавай, у якой з Беларуссю будуць раўнапраўныя, узаемавыгадныя адносіны".

Такі адказ на прапанову аб аб'яднанні Расіі і Беларусі дала група дэпутатаў Пінскага гарсавета ў прынятым звароце да Дзярждумы Расіі.

БЕЖАНЦЫ

### УЦЯКАЮЦЬ З ЧЭЧНІ

Паводле звестак Дзяржаўнай міграцыйнай службы Беларусі, толькі з пачатку 1995 года па 18 студзеня ў рэспубліцы зарэгістраваны 43 бежанцы з Чачэнскай Рэспублікі. Палова з іх -- 22 чалавекі -- дзеці, трое пенсіянераў, працаздольных -- 18 чалавек. Без дакументаў толькі тры чэчэнцы. Варта адзначыць, што 11 чачэнскіх эмігрантаў -- ураджэнцы Беларусі, якіх чачэнская бойня вымусіла вярнуцца на родную зямлю.

БРАСЛАЎСКІЯ КАШУЛІ

### НА КАНАДСКІ РЫНАК

Прадукцыя Браслаўскага камбіната прамысловых тавараў выйшла нядаўна на знешні рынак. Першая пробная партыя з дзвюх тысяч фланелевых кашуль, выпускаемых у Браславе, спадабалася канадскай фірме. Яна і заключыла кантракт з камбінатам на пастаўку шасці тысяч такіх вырабаў штомесяц, пачынаючы са студзеня гэтага года.

Шукайце браслаўскія кашулі, землякі, ў Канадзе!

НАРОД ВЫХОДЗІЦЬ НА ПЛОШЧЫ




**26 студзеня па заклiку Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў Мінску, Гродне, Віцебску і некаторых іншых гарадах адбыліся мітынгі пратэсту супраць зніжэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва. Напярэдадні Прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка ў інтэрв'ю па тэлебачанні назваў заклік прафсаюзаў перадвыбарным палітыканствам. Яго думка: не на плошчах трэба шукаць грошы для дзяржаўнага бюджэту. Але ў тых, хто валам валіў па вуліцах сталіцы да плошчы Свабоды, свой розум. На мітынг іх гналі не прафсаюзы, а трывога: як выжыць. Галоўным патрабаваннем было ва ўсіх выступленнях: урад павінен павысіць заработную плату.**

**НА ЗДЫМКУ: мітынг пратэсту на плошчы Свабоды ў Мінску.**

СПРАВА СТАТКЕВІЧА

### НА ПАЎТОРНЫ РАЗГЛЯД

Ваенная калегія Вярхоўнага суда разгледзела пратэст намесніка старшыні Вярхоўнага суда Яўгена Царэнкі па справе старшыні Беларускага Згуртавання вайскоўцаў Міколы Статкевіча, звольненага з войска з фармулёўкай "за дыскрэдытацыю высокага звання афіцэра" загадам тагачаснага міністра абароны П.Казлоўскага. У пратэсце сказана, што вывады ваеннага суда аб тым, што "Статкевіч М.В. займаўся палітычнай дзейнасцю, пераканаўчымі доказамі не пацверджаны. Якія канкрэтна Статкевіч М.В. здзейсніў праступкі, дыскрэдытуючыя званне афіцэра, суд у рашэнні не прывёў".

Ваенная калегія, нягледзячы на пярэчанні прадстаўнікоў Міністэрства абароны, адмяніла рашэнне ваеннага суда, які палічыў звальненне старшыні БЗВ законным. Іск Статкевіча да міністэрства вернуты калегіяй на паўторны разгляд у Мінскі гарнізонны ваенны суд.

ЗЛАЧЫНЦЫ НЕВЯДОМЫЯ

### ЗАГІНУЛІ ДУБЫ-ВОЛАТЫ

На тэрыторыі дзяржаўнага ландшафтнага заказніка "Азёры" Гродзенскага раёна ў водаахоўнай зоне возера Белае знішчаны 12 дубоў-волатаў, што памяталі яшчэ Напалеона. Пракуратура Гродзенскага раёна ўзбудзіла крымінальную справу, але яна прыпынена з-за адсутнасці вінаватай асобы.

СВОЙ АЎТОБУС

### "НЕАПЛАН" З МАЗа

На Мінскім аўтазаводзе ідзе зборка 10 аўтобусаў МАЗ-101 "Неаплан". На 80 працэнтаў яны будуць складацца з айчынных камплектуючых.

Больш за 40 беларускіх прадпрыемстваў падключана да выпуску дэталяў для "Неапланаў".

ПЯЦЬ ГАДОЎ НАЗАД

БЫЎ ПРЫНЯТЫ ЗАКОН АБ МОВАХ

## ЗАГАВОРЫЦЬ ШКОЛА -- ЗАГАВОРЫЦЬ НАРОД

25 студзеня споўнілася пяць гадоў з дня прыняцця ў Беларусі Закона аб мовах. І гэта дата для нашага народа, не спешчанага праявамі сваёй адметнасці, павінна была б стаць святочнай і ў календары быць пазначанай чырвоным колерам. На жаль, нічога падобнага не здарылася. Не было ўсенароднай радасці, юбілейных артыкулаў, і сама гаротная нацыянальная мова за гэтыя пяць гадоў "пасля сваёй перамогі" не стала сапраўды дзяржаўнай, па-ранейшаму рэдка гучыць на вуліцах, скажона на радыё і тэлебачанні.

На прэс-канферэнцыі для журналістаў, наладжанай старшынёй Камісіі Вярхоўнага Савета па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны Нілам Гілевічам, ён прыгадаў абставіны, што паспрыялі прыняццю таго гістарычнага Закона, які, па словах Н.Гілевіча, быў прадыктаваны самім жыццём. Не толькі ў Беларусі, але і ў іншых рэспубліках былога Саюза абмяркоўвалася, асабліва сярод інтэлігенцыі, у канцы 80-х пытанне аб тым, што ў кожнай рэспубліцы мова карэннай нацыянальнасці павінна стаць дзяржаўнай. Бо мова -- гэта не толькі сродак зносін, сродак камунікацыі. У мове ўсё духоўнае жыццё народа, яго адносіны да прыроды, да ўласнай гісторыі, культуры.

Такіх абыякавых, нават варожых адносін да мовы карэннага насельніцтва, як у Беларусі, няма ні ў якой іншай краіне свету, мусіць, і законы, што вызначаюць і абераганоць правы, інтарэсы і абавязкі народа, нідзе не зневажаюцца так бесцырымонна, як у нас. Мы ніколі не жылі ў праваой дзяржаве: законы існавалі самі па сабе, а народ жыў, у лепшым выпадку, па ўказах і пастановах.

Так адбываецца сёння і з Законам аб мовах. Мала хто клапоціцца аб яго выкананні. Найлепшая сітуацыя, як сказаў Ніл Гілевіч, у сферы адукацыі, і ён вельмі спадзяецца, што працэс гэты незваротны. А калі загаворыць школа, то загаворыць народ. Пры гэтым было падкрэслена, што не ставіцца мэта выцесніць рускую школу, а цяпер і польскую, і яўрэйскую.

Аднак, здаецца мне, менавіта за школу ідзе зараз найбольш жорсткая барацьба. Не так даўно на беларускім радыё ў папулярнай перадачы "Радыёфакт" прагучала непаразумелае па сваёй ваяўнічасці і невуцтву выступленне (не запомніла прозвішча і пасады выступоўцы). Яно было скіравана супраць навучання дзяцей у беларускіх школах, бо такія школы, маўляў, выпусцяць у свет неадукаваных, пазбаўленых здабыткаў сусветнай культуры людзей. Беларуская мова называлася "говором", недасведчанасць у гісторыі выклікала разгубленасць і абурэнне. Падобных выступленняў у сродках масавай інфармацыі, ад розных "рухаў", арганізацый, дзяржаўных дзеячаў даводзіцца чуць вельмі многа. Аб гэтым гаварылі і журналісты на прэс-канферэнцыі. Гаварылі яны і аб тым, што іх абавязак бараніць мову 10-мільённага народа.

Дзіяна ЧАРКАСАВА.

*АБ ГЭТЫМ РАНЕЙ НЕ ПІСАЛІ*

# НЕ ДАЙ БОГ ТАКОГА ЖЫЦЦЯ



Чатыры гады -- не чатыры дні. За гэты час страчана многае: выйшла замуж жонка за другога, у катэгарычнай форме загадала не паказвацца на вочы сыну, каб не кампраметаваць, ды яшчэ адсудзіла ўсю кватэру. Куды цяпер?

І накіраваўся Іван Міхайлавіч да сяброў. Гэта ж яны "дапамаглі" яму трапіць за краты. Некалі Іван Міхайлавіч працаваў загадчыкам магазіна. Знайшліся сябры, якія бралі і па сто грамаў, і па бутэльцы гарэлкі "на павер". А ў выніку -- буйная растрата грошай, за што трапіў за краты.

Пасля турмы сябры не дапамаглі. Хто спаслаўся на асабістыя нелады ў сям'і, хто, стаўшы бізнесменам, проста не захацеў прызнаць у былым зэку ранейшага сябра...

І тады нехта параіў звярнуцца ў аб'яднаны спецпрыёмнік-размеркавальнік.

... Ніхто дакладна не ведае, як Шура, мужчына сярэдніх гадоў, стаў бадзягам. Сваім лёсам, здавалася, быў задаволены. Жыў у падвале дома ў сталічным мікрараёне Усход. Знаходзіліся чулліўыя людзі, якія і ў госці запрашалі, і адзявалі. Толькі цягнулася гэта да пары, пакуль у саміх усё было. І прыйшлося Шуры жабраваць. Аднойчы не паладзіў з мясцовымі ўладамі, і ўчастковы адправіў яго прымусова ў той жа размеркавальнік.

... Што ж гэта такая за ўстанова ў Мінску, куды адным раяць звярнуцца за дапамогай, іншым пагражаюць размеркавальнікам?!

Чатырохпавярховы будынак на вуліцы Прылуцкай у Мінску. Уражанне такое, быццам падыходзіш да казармы дарэвалюцыйных часоў: шэры, непрывабны дом. Унутры -- не лепш. І тынкоўка абвальваецца, і шпалеры адстаюць... Камеры, краты.



-- Выгляд у нашай установы і сапраўды непрывабны, -- згаджаецца інспектар Цэнтра сацыяльнай адаптацыі (такая ўстанова месціцца тут) Мікалай Вяркееў. -- Не хапае грошай на рамонт, набыццё абсталявання. Дайшло да таго, што нашы супрацоўнікі часам "кліентаў" прывозяць не на спецмашынах, а на трамваі ці тралейбусе.

Што гэта за "кліенты"? Частка з іх, і немалая, тыя, хто быў асуджаны і адседзеў свой тэрмін. Толькі за апошнія месяцы праз размеркавальнік прайшло пяцьдзесят чалавек.

-- Гэта самы цяжкі для нас кантынгент наведвальнікаў, -- адзначыў інспектар і растлумачыў: -- З кляймом "судзімасць" цяжка ўладкаваць чалавека ў гадах у інтэрнат для састарэлых. Напрыклад, у самы вялікі ў Беларусі, што размешчаны на вуліцы Ваўпшасава, з тых пяцідзесяці ўзялі толькі шэсць чалавек, яшчэ шасці пашанцавала знайсці жыллё ў іншых інтэрнатах.

З кляймом "судзімасць" ды і "бадзяга" не бяруць на працу. Хаця маглі б на іншых прадпрыемствах і ўзяць. Як гэта робіцца, напрыклад, у Расіі. Там, калі такі чалавек праходзіць выпрабавальны тэрмін, яго залічваюць на пастаянную працу, даюць нейкае жыллё. А што гэта значыць -- тлумачыць не трэба. Чалавек нібы нанава вяртаецца да жыцця, стварае сям'ю, заваёўвае павагу ў грамадстве.

Дзеля справядлівасці адзначым, што не ўсе "кліенты" аб'яднанага спецпрыёмніка-размеркавальніка маюць ахвоту мяняць лад свайго існавання. Бадзяжніцтва для некаторых ледзь не гонар. Адбыўшы адзін месяц (дапушчальны тэрмін) у размеркавальніку, яны ідуць на вуліцы, у пераходы -- самыя ажыўленыя пункты беларускай сталіцы і жабруюць.

-- Нашы пастаянныя "кліенты" прыносяць шмат клопатаў, -- падкрэслівае начальнік размеркавальніка Мікалай Невядомскі, -- кожны наведвальнік праходзіць некалькі праверак: ці не ўдзельнічаў у крадзяжах, цяжкіх і звычайных злачынствах, з аднаго боку. З другога, ці не хворы ён. А хворых сёння не змяншаецца. Выяўляем туберкулёзнікаў (у нас жа для іх нават няма спецыяльных памяшканняў), наркаманаў, асабліва шмат людзей пакутуюць на венерычныя хваробы.

-- А што, акрамя пералічанага, -- пытаемся у М.Невядомскага, -- характэрна для "новенькага"?

-- Тут, -- адказвае начальнік, -- яшчэ больш строгі падыход з нашага боку. Мясцовыя бадзягі, судзімыя штодзень, як кажуць, перад вачамі супрацоўнікаў, навідавоку. А новенькага патрэбна вывучаць: адкуль прыехаў, ці не хаваецца ён ад правасуддзя, ці не шукаюць яго праваахоўныя органы дзе-небудзь у іншай краіне, з якой мэтай прыехаў да нас, аднавіць згубленыя дакументы...

Тут М.Невядомскі перапыняе тлумачэнні і прапануе зрабіць экскурсію па сваёй гаспадарцы.

У адной з камер сутыкаемся з... пакістанцамі. Тут жа в'етнамцы, індусы, кубінец.

-- Куды іх дзець? -- працягвае размову начальнік размеркавальніка. -- Адправіць дадому -- у нас няма грошай. Ды дадому яны і не хочуць: адных чакае кроўная помста, другіх адпраўяць ваяваць, трэціх чакае турма ці катарга за палітычныя погляды. А мы ж людзі таксама, добра разумеем усё. Вось і разбіраемся з кожным па-людску.

Падчас наведання спецпрыёмніка пачулі мы і трывожныя ноткі супрацоўнікаў гэтай установы: мала таго, што тут няма элементарных умоў для працы, дык новая гара можа зваліцца на іх плечы: у верхніх эшалонах улады ідзе сур'ёзная гаворка аб чарговай амністыі для некаторай катэгорыі зняволеных. Так што чакай сюды яшчэ "кліентаў".

А мы падумалі: папаўненне прыйдзе. І не толькі з турмаў, а і з аб'яднанага спецпрыёмніка-размеркавальніка, што праз сцяну, дзе ўтрымліваюцца непаўналетнія.

**Яўген ІВАНОЎ.**

**НА ЗДЫМКАХ: будынак спецпрыёмніка-размеркавальніка; у адной з камер.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ДРУГОЙ ТАКОЙ КРАІНЫ НЯМА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Я не вытрымаў і патэлефанаваў журналісту. У адказ ён мне параіў узяць усе энцыклапедыі і даведнікі і паглядзець, што там напісана. І гэта праўда. Наша гісторыя вельмі сфальсіфікаваная, а новых кніг няма. Адкуль жа ў свеце будуць ведаць, што беларуская мова была дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім і што на той час яе падтрымлівалі як палякі, так і расійцы.

*-- Дзякуй Богу, Беларусь усё ж жыве, і ўсё больш людзей у свеце даведваюцца аб нашай краіне. У падтрымку дзяржаўнасці Беларусі шмат робяць свядомыя беларусы замежжа, у падтрымку яе дзяржаўнасці скіраваны намаганні пасольстваў Беларусі ў розных краінах. Цяпер ёсць такое пасольства і ў Бельгіі, а гэта азначае, што будзе больш інфармацыі пра Беларусь, больш кантактаў...*

-- Так павінна быць, але, на маю думку, будзе гэта яшчэ не хутка, менавіта ў тым сэнсе, як павінна ўсё гэта адбывацца. Я размаўляў з паслом, і ён мне патлумачыў, што сёння першасны клопат -- дапамагчы Беларусі эканамічна: атрымаць інвестыцыі, наладзіць кантакты паміж беларускімі і бельгійскімі прадпрыемствамі. Я заўважыў, што тут таксама кажуць: першы клопат трэба надаць эканоміцы, а мова і культура -- другаснае, пачакаюць. Але мне падаецца, каб гэтыя заклапочаныя эканамічнымі праблемамі людзі з пашанай ставіліся да сваёй мовы, культуры, не апынулася б у такім заняпадзе і эканоміка. Добра, каб яны зразумелі, што гэтыя рэчы ўзаемазвязаныя і тут не можа быць падзелу на першаснае і другаснае. Мяне ўвесь час, калі я спатыкаюся з беларускімі дэлегацыямі ў Бельгіі, здзіўляе адсутнасць у іх актыўнасці, ініцыятывы. На жаль, іх больш пакуль цікавіць, дзе набыць танную апаратуру, чым як зрабіць такую ж у сябе дома.

*-- Здаецца, тут усё яшчэ адчуваюцца ўплывы нашых старых стэрэатыпаў. Людзі, на жаль, прызвычаіліся працаваць па загаду. Патрэбен час, каб нешта змянілася. А таму мне падаецца, што супрацоўніцтва нашых свядомых замежных суайчыннікаў з беларускімі пасольствамі было б тут вельмі істотным.*

-- Так, менавіта таму адразу пасля ўтварэння амбасады я туды і пайшоў. Здаецца, мы знайшлі паразуменне з паслом. Мне спадабалася яго жаданне сустрэцца з беларусамі, якія жывуць у Бельгіі. Вельмі важна абмяняцца думкамі, акрэсліць шляхі нашага супрацоўніцтва. Спраў тут надта шмат. Ніякай асабістай дапамогі нам не патрэбна -- мы ўсе забяспечаныя. Увесь наш сённяшні клопат -- наша Бацькаўшчына. Першае, што, на маю думку, тут трэба зрабіць: як мага хутчэй палепшыць сувязь паміж Беларуссю і іншымі краінамі. Прыехаць з Беларусі да нас і наадварот неверагодна цяжка. Цікава, што асноўныя перашкоды сёння стварае бельгійскі бок. Нейкім чынам гэта тлумачыцца тым, што яны вельмі баяцца чужынцаў, якія прыязджаюць, а потым застаюцца тут жыць, а дзяржава павінна клапаціцца аб іх, плаціць грошы па беспрацоўю. Я памятаю, як упершыню запрасіў да сябе сястру. Чатыры разы я дасылаў да яе запрашэнне. Тры разы адмовіў тады яшчэ савецкі бок, а чацвёрты адмовіла бельгійская амбасада. Толькі пасля асабістага ўмяшання мы нарэшце змаглі сустрэцца. Але такое ўмяшанне можа дазволіць сабе не кожны. Мой сябар на працягу ўжо двух гадоў запрашае сваю пляменніцу. Яна мо разоў дзесяць ездзіла ў Маскву па візу і ўсё безвынікова. Тут вельмі шмат праблем, якія вымагаюць вырашэння.

*-- У нас заўсёды былі праблемы з выездам за мяжу. І тым не менш, у апошнія гады ў вас з'явілася магчымасць прыехаць на Бацькаўшчыну.*

-- Магчымасць ёсць. І гэта істотна, але недастаткова. Ведаеце, турызм -- справа вельмі прыбытковая. Многія краіны толькі за кошт яго і існуюць. Уезд жа ў Беларусь для простага турыста амаль немагчымы, а паслугамі турыстычных агенцтваў карыстацца на Захадзе не вельмі любяць. А калі ты хочаш прыехаць у Беларусь прыватна, павінен атрымаць запрашэнне. Ды хто яго дашле? Без запрашэння візы не атрымаеш, а яна яшчэ і грошы каштуе, выезд амаль ва ўсе іншыя краіны бясплатны.

*-- Колькі каштуе бельгійская віза?*

-- Калі тэрміновая і афармляецца за адзін дзень -- дык 120 долараў, а калі на працягу 2--3 тыдняў -- тады ўдвая танней. Зараз, на маю думку, прыйшоў час для Беларусі далучыцца да цывілізаваных краін. Крокі насустрач адзін аднаму павінны рабіць абодва бакі. Ну вось добра, што я маю магчымасць атрымаць афіцыйнае запрашэнне, каб сюды прыехаць. Наогул жа, працэдура афармлення запрашэння сваякоў з-за мяжы ў Беларусь вельмі ўскладнёная. Спадзяюся, над усімі гэтымі пытаннямі мы і будзем працаваць разам.

*-- Час ідзе. А праблемы, на жаль, набываюць якасці снежнага камяка: іх робіцца ўсё болей, ды вырашаць няма каму.*

-- Што мяне тут яшчэ вельмі турбуе, дык гэта стаўленне дзяржаўных колаў да інтэлектуальнай працы і навукі, у прыватнасці. Не робіцца ніякіх захадаў, каб зацікавіць людзей працаваць. У Мінску ў мяне ёсць знаёмы кандыдат навук, які працаваў у Акадэміі навук Беларусі, але мусіў пайсці адтуль, бо не мог пракарміць сям'ю на тыя грошы, што атрымліваў ад дзяржавы. Зараз ён займаецца дробным прыватным бізнесам, што дае яму магчымасць існаваць. Калі краіна так лёгка будзе губляць сваіх навукоўцаў, дык загіне ўсё, што да гэтага часу было такімі цяжкасцямі набыта. Існуе небяспека, што многія збягуць. Памятаю, у Бельгіі таксама пасля вайны была сітуацыя накшталт гэтай (але, магчыма, не такая крытычная), калі лепшыя навукоўцы збягалі ў ЗША ў пошуку большых заробкаў. Але ўрад Бельгіі хутка зразумеў, чым гэта пагражае, і памылка была выпраўлена. Трэба абавязкова падтрымліваць навукоўцаў. Навука не можа грунтавацца на нейкіх ідэалах. Маленькі прыклад з уласнага жыцця. Я працаваў галоўным рэдактарам пяцімоўнага навуковага часопіса "Сталь". Ганарары ў нас былі невялікія. І вось аднойчы навуковец з Англіі дасылае свой чарговы артыкул з папярэджаннем, што ён будзе апошнім, бо не варта працаваць толькі дзеля славы. Мае тлумачэнні, што, дзякуючы нашаму часопісу, яго імя будзе вядомым у свеце, яго не пераканалі.

*-- Тут зноў, падаецца, справа тычыцца ўсё тых жа старых стэрэатыпаў, якія трэба як мага хутчэй мяняць.*

-- Змены павінны адбывацца, але яны павінны быць разумныя. Некаторыя ж "новыя" разважанні мяне нават палохаюць. Учора я меў нагоду дыскутаваць наконт сельскай гаспадаркі. Дык вось адзін з субяседнікаў хацеў мяне пераканаць, што сёння няма ніякага сэнсу дататаваць яе, бо гэта каштуе больш, чым закупіць прадукты за мяжой. Магчыма гэтым і можна патлумачыць тое, што сёння з гаспадаркай сталася. Яна амаль загінула. Я наведаў сваю сястру ў вёсцы і бачыў сваімі вачыма, як бедна там жывуць людзі. Калі так думаюць і так пішуць знакамітыя эканамісты, дык у мяне да іх пытанне: "Адкуль яны будуць браць грошы, каб купляць гэтыя прадукты? Ці можа яны пасыплюцца з неба?" Такое ўражанне, што людзі зусім не ўяўляюць, што і адкуль бярэцца. Патрэбны спецыялісты, якія зробяць грунтоўныя навуковыя распрацоўкі. Хочацца спадзявацца, што такое становішча не будзе цягнуцца доўгі час і нешта нарэшце зрушыцца.

*-- Дзякуй вам за цікавую размову, спадар Жучка. Жадаю вам поспеху і плёну ў вашай справе і спадзяюся, што наступны раз вашы ўражанні будуць больш пазітыўныя і аптымістычныя.*

БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ І АЧАРНЕННЯ

# ЯК СЛУЧАКІ БАРАНІЛІ СВОЙ ДОМ

Для кіраўніцтва ўсімі бакамі сацыяльнага жыцця былі арганізаваны камісіі: юрыдычная, фінансавая, зямельная і харчовая. Паспелі нават выдаць першы загад аб нацыяналізацыі лясных багаццяў Случчыны. Гэты загад забараняў вывозіць за межы павета збожжа, жывёлу і г.д. Назіраць за выкананнем загадаў Прэзідыума павінны былі валасныя рады. Кароткі тэрмін знаходжання ў Слуцку не дазволіў засяродзіць увагу на мірнай рабоце. Тым не менш, хутка змянілі ўладу на месцах. Замест польскай адміністрацыі пачалі дзейнічаць нацыянальныя камітэты. У воласці па даручэнню Рады ехалі яе члены, праводзілі растлумачальную працу па выбарах, зацвярджалі склад камітэтаў. "Пры размеркаванні абавязкаў паміж членамі Рады, -- вымушаны быў давесці да ведама чэкістаў арыштаваны ў 1922 годзе Пётр Бабарэка, -- мне была даручана арганізацыя грамадзянскай улады ў Грозаўскай, Пукаўскай, Грэскай, Вызненскай і Цімкавіцкай валасцях..."

Улас Дубіна, таксама член слуцкай Рады, з той жа мэтай быў накіраваны ў Старобінскую і Цараўскую воласці. Адначасова пасланцы займаліся мабілізацыяй моладзі ў войска. Ваенныя пытанні трэба было вырашаць першапачаткова.

23 лістапада польскія ўлады паведамілі, што пакідаюць Слуцк. Гараджане спачатку запанікавалі, потым абурыліся, зразумеўшы, што палякі не далі ні часу, ні магчымасці ўмацавацца нацыянальнаму руху, сабраць сілы. Рада надрукавала паведамленне аб сваёй эвакуацыі і заклік запісвацца ў добраахвотніцкія атрады. Хутка быў прыняты зварот да савецкага ўрада. Ноту ўручылі савецкім прадстаўнікам пры 10-й польскай дывізіі для перадачы па назначэнню. У дэкларацыі за подпісамі Пракулевіча, Жаўрыда, Русака, Сасноўскага і Радзюка гаварылася: "У момант самавызначэння ўсіх народаў і змагання за сваю самастойнасць і свабоду Беларуская Рада Случчыны выконвае волю сялянства, паслаўшага яе і даверыўшага ёй абарону незалежнасці нашай Бацькаўшчыны Беларусі, заяўляе ўсяму свету аб намаганнях, намерах беларускага сялянства, аб тым, што Беларусь павінна быць вольнаю незалежнаю рэспублікай у яе этнаграфічных межах. Абвяшчаючы аб гэтым і з'яўляючыся выразнікам волі народаў, слуцкая Рада дэкларуе цвёрда стаяць за незалежнасць роднай Беларусі і бараніць інтарэсы сялянства ад гвалту з боку чужаземных захопнікаў і ў выпадку патрэбы нават сілаю зброі, нягледзячы на колькасную перавагу ворага, думаючы, што наша справа -- справа праўдзівая, а праўда заўсёды закрасуе".

Рада Случчыны пратэставала супраць намеру савецкіх улад заняць Слуцк пасля адыходу польскіх войск, спасылаючыся на пастановы Рыжскай канферэнцыі аб прызнанні самавызначэння народаў.

Адначасова Рада звярталася да дэмакратыі ўсяго свету з пратэстам супраць падзелу незалежнай БНР.

Эвакуацыя Слуцка скончылася 24 лістапада. Адным з апошніх горад пакідаў Пракулевіч. Каля будынка, што займала Рада, эсэр Куніцкі раскідваў антыбальшавіцкія адозвы.

## СЕМЕЖАВА (24.11—7.12)

Ваенная стаўка была перанесена ў Семежава. У мястэчка прыбыла Рада. Адусюль сцякаліся людзі. Па даных Пракулевіча, іх сабралася да 15 тысяч чалавек. Шмат адразу перайшло ў Польшчу.

24 лістапада пачаўся запіс добраахвотнікаў у брыгаду. Між тым, узмацніліся непаразуменні паміж Радай і штабам паўстанцаў. Ваенныя бачылі, што на матэрыяльную дапамогу Найвышэйшай Рады разлічваць не даводзіцца. Узрастала колькасць прыхільнікаў Булак-Балаховіча, армія якога да гэтага часу была ўжо інтэрнавана, але генерал меў неблагія матэрыяльныя магчымасці. На ваенныя нарады штаб пазбягаў запрашаць членаў Рады, ігнараваў камісара Найвышэйшай Рады. Для сувязі штаба брыгады з Радай абралі Ю.Сасноўскага. Абвастрэнне адносін вылілася ў адкрыты канфлікт.

Напрыканцы лістапада ў Семежаве з'явіліся член Найвышэйшай Рады К. Цярэшчанка, старшыня Беларускай Вайсковай камісіі А. Якубецкі і штабс-капітан Борык. Правялі некалькі пасяджэнняў вузкім колам. Борык рашуча выступіў супраць сувязі з Булак-Балаховічам. З прамовы Цярэшчанкі паўстанцы даведаліся, што не толькі ў Польшчы, але і ў шырокіх еўрапейскіх колах грамадства загаварылі аб паўстанцкім незалежніцкім руху ў Беларусі. Паўстанне павінна было прадэманстраваць рашучасць беларусаў дабіцца незалежнасці. "Мы хацелі, аднак, каб свет крыху падумаў аб нас. Чаму аб Літве, Латвіі, Польшчы клапоцяцца заходнія дзяржавы, а Беларусь пакідаюць сваёй долі?" Было запланавана стварыць для паўстанцаў друкарню. Польскія ўлады далі дазвол на адкрыццё яе ў Слоніме. Для працы туды быў накіраваны М. Касцевіч. Пакуль справы з друкарняй не вырашаліся, абмежаваліся гектографам. Выдалі прыгаданую дэкларацыю Рады, некалькі зваротаў да грамадзян, чырвонаармейцаў, сялян. Размножылі "Пагоню" Максіма Багдановіча, песню-гімн "Ад веку мы спалі" разам з нотамі. Мелі намер арганізаваць курсы беларусазнаўства.

На другі дзень госці прымалі парад беларускіх аддзелаў. Паўстанцы прайшлі з песнямі па плошчы, з бел-чырвона-белымі нашыўкамі замест пагонаў. Цярэшчанка вельмі расчуліўся. Паўстанцы ішлі ў бой.

У канцы лістапада 1920 года І-шы Слуцкі полк займаў участак ад Семежава да Вызны, працягласцю прыкладна 20 кіламетраў. Баявыя дзеянні пачаліся 27 лістапада. Аддзелы 6-й роты Слуцкага палка на чале з падпаручнікам Кернажыцкім падчас разведкі ў раёне вёсак Выстрыца, Верамейчыкі, Васільчыцы і Чарнагубава сустрэліся з бальшавіцкім разведвальным атрадам. У выніку сутычкі захапілі палонных, ад якіх даведаліся аб размяшчэнні чырвоных. Працяглы бой завязаўся каля Васільчыц, бальшавіцкія атрады адышлі. Адзін са стральцоў быў цяжка паранены. Чырвонаармейцы згубілі трох забітых, трох параненых, і адзін трапіў у палон.

**Ніна СТУЖЫНСКАЯ**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 50—52 (1994 г.), №№ 1—4.**

*З УСПАМІНАЎ*

# II. БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ ГІМНАЗІЯ Ў ДЗВІНСКУ

Беларуская дзяржаўная гімназія ў Дзвінску пачала сваю дзейнасць у 1922--23 школьным годзе. Першым дырэктарам гімназіі быў прызначаны І.Краскоўскі, які і арганізаваў работу гімназіі. І.Краскоўскі працаваў як настаўнік у Беларускай гімназіі ў Вільні (тады гэты была Польшча) у 1921--22 годзе, дзе выкладаў гісторыю Беларусі. На пачатку 1922 года польская ўлада арыштавала цэлую групу беларускіх і літоўскіх дзеячаў і нарэшце выслала іх на тэрыторыю Літвы (так званы працэс 33-х). Калі ў Латвіі дазволілі адкрыць Беларускую гімназію ў Дзвінску, І.Краскоўскага запрасілі арганізаваць гэтую школу, і ён з Каўнаса паехаў у Дзвінск.

Будынак, выбраны для гімназіі (Варшаўская вуліца, № 16), быў знішчаны пасля пажару, засталіся толькі сцены. І.Краскоўскі прыехаў у Дзвінск вясною 1922 года. Дзякуючы яго энергіі і арганізацыйным здольнасцям, будынак аправілі падчас лета, і восенню там пачаўся школьны год. Трэба было не толькі зрабіць рамонт дома, але здабыць мэблю для класаў, настаўніцкага пакоя. Да тэрміну адкрыцця гімназіі ўжо знайшлі настаўнікаў, якія прыехалі не толькі з Латвіі, але і з Літвы і Беларусі. У складзе вучыцеляў былі такія асобы: Паўліна Мядзёлка (беларуская мова і літаратура), Уладзімір Пігулеўскі (гісторыя Беларусі), Васілій Зянкевіч (латышская мова і гісторыя Латвіі), Уладзімір Корцi (матэматыка), П.Жэрдзі (прыродазнаўчыя навукі), Эла Стэфановіч (нямецкая мова), Андрэй Якубецкі... І.Краскоўскі выкладаў агульную гісторыю. Рэлігію ў гімназіі выкладалі каталіцкі ксёндз і праваслаўны святар. Калі пасля арганізавалі майстэрні, іх загадчыкам стаў латыш -- інжынер Комісар. Майстэрні адкрылі ў 1923--24 годзе, калі ўжо закупілі патрэбныя машыны і інструменты. Былі тры майстэрні: сталярная і слясарная для хлопцаў, а швейна-ткацкая -- для дзяўчат.

Школьная сістэма ў Латвіі мела 6 класаў пачатковай і 4 класы сярэдняй школы. Ужо ў першы год у гімназіі запоўнілі і адкрылі ўсе класы сярэдняй школы і падрыхтоўчы 6-ты клас. Склад вучняў быў вельмі разнародны -- і па узросту, і па нацыянальнасці. Напрыклад, у 10-м класе вучыўся А.Махноўскі, які ўжо скончыў Беларускія вучыцельскія курсы, У.Жылка, старэйшы за іншых вучняў. Пераважная большасць навучэнцаў былі беларусы, але ў гімназіі былі і латышы (у 10-м классе -- адзін латыш, у 9-м -- дзве латышкі-сястры Рэгут), некалькі рускіх, полька Белінская. У Дзвінску, апрача латышскіх гімназій, існавала таксама руская, якая фінансава была забяспечана лепей, чым беларуская школа. Але ў беларускай гімназіі ніхто не звяртаў увагу на нацыянальную прыналежнасць вучняў, і ўсе жылі дружна.

Шмат вучняў прыехала з вёскі, з ваколіц Дзвінска -- яны не мелі дзе жыць. Давялося арганізаваць для іх інтэрнат.

Навучанне ў гімназіі хутка наладзілася і ішло нармальна, разам з вучобаю развівалася самадзейная праца: быў арганізаваны хор з вучняў і драматычны гурток. Занняткі праводзіла Паўліна Мядзёлка, якая аддавала хору і гуртку ўсе свае здольнасці. На другім паверсе будынка гімназіі была вялікая зала, дзе пабудавалі сцэну, там стаяла і піяніна. Пасля заканчэння ўрокаў у другой палове дня дзейнасць вучняў пераносілася ў гэтую залу. Рабіліся рэпетыцыі драматычных пастановак, праходзілі спеўкі хору. Падчас гэтых прац вельмі памагала жонка У.Пігулеўскага -- Валянціна Бароўская. Яна была выдатная піяністка і брала ўдзел у рэпетыцыях і выступленнях. Зімою 1923 года хор Беларускай гімназіі паехаў у Рыгу, дзе выступаў у Дзяржаўным тэатры. Гэта была заслуга латышскага паэта Яна Райніса, які ўвесь час падтрымліваў беларускія справы. Ён тады быў міністрам школьніцтва ў Латвіі і пастараўся, каб хор Беларускай гімназіі ў Дзвінску паклікалі да Рыгі. Выступленне хору ў Рызе мела поспех. Пасля заканчэння спеву хор разам з Я.Райнісам сфатаграфавалі на сцэне тэатра. Першай пастаноўкай драматычнага гуртка, якую падрыхтавала П.Мядзёлка, была "Паўлінка" Янкі Купалы. Пазней ставілі кароткую сцэну "На першай гульні" і балет на каўказскія матывы. Я пераклала з чэшскай мовы аперэту "З чэшскіх млынаў", якая таксама мела поспех. Кожны раз, калі было выступленне хору альбо гралі якуюсь п'есу, зала была поўная гледачоў, некаторыя пастаноўкі паўтаралі два разы. Салісткай была Надзя Мікалаева, якая прыгожа спявала і добра іграла. Добра спявала і другая вучаніца Анка Бедарава. Дэкарацыі для пастановак рабілі самадзейна. Малявалі іх вучні: я і Пётра Міp aновіч, трохі дапамагаў Сенька Дарафееў. Майстэрні сапраўды вельмі дапамагалі пры пастаноўках: у швейнай дзяўчаты пасшывалі вялікія палотны для дэкарацый, у сталярнай хлопцы выраблялі розныя дэталі для абсталявання сцэны. Агулам гэтая мастацкая дзейнасць вельмі яднала цэлы калектыў гімназіі, настаўнікаў і вучняў.

У Латвіі тады быў пашыраны скаўтынг. Апрача апісанай самадзейнасці ў гімназіі арганізавалі аддзел скаўтаў-хлопцаў, дзе былі вучні з розных класаў. У 1924 годзе вясною ў Дзвінску здарылася вялікая затопа. Рака Дзвіна перарвала абаронныя валы і затапіла часціну места. Скаўты актыўна дапамагалі ратаваць жыхароў і іх маёмасць. Ужо ў першым школьным годзе ў гімназіі арганізавалі для хлопцаў футбольную каманду, якая змагалася з камандамі іншых гімназій у Дзвінску.

Наша сям'я прыехала з Вільні ў Дзвінск перад пачаткам школьнага 1922-23 года. Кватэра дырэктара была ў будынку гімназіі на першым паверсе. Я паступіла ў дзесяты клас, а браты -- у малодшыя. Спачатку мне было цяжка вучыцца, таму што іншыя вучні мелі латышскую мову ў школе 2--3 гады, і я мусіла іх наганяць. Таму першую палову года я вучыла галоўным чынам латышскую мову. На шчасце, латышская граматыка ёсць надзвычай простая, а гісторыя Латвіі таксама кароткая. У 10-м класе з агульнай гісторыі мы мелі гісторыю культуры, гэта былі геаграфічныя адкрыцці, архітэктура, мастацтва. Такія факты запамяталіся лепей, як даты паноўнікаў альбо войны. Наш клас трымаўся дружна, не было ані супярэчкі з настаўнікамі. Школьны год прайшоў спакойна, і ўсе вучні здалі экзамены на атэстат спеласці. Найлепшыя ўспаміны засталіся аб мастацкай самадзейнасці, аб дружным настроі падчас падрыхтоўкі пастановак п'ес і пасля іх выканання.

Увосені 1924 года я выехала з Дзвінска да Чэхаславакіі ў Прагу, дзе я пачала вучыцца ў Карлавым універсітэце на філасофскім факультэце. Пра тое, што рабілася ў гімназіі ў Дзвінску, я ведала з пісьмаў, якія часта пісала мая маці. Яна падрабязна апісвала здарэнні ў школе. Восенню 1924 года латышская ўлада пачала ліквідацыю беларускага школьніцтва. Настаўнікаў Беларускай гімназіі ў Дзвінску абвінавачвалі ў тым, што яны хацелі адарваць Латгалію ад Латвіі і спалучыць яе з Савецкай Беларуссю. І.Краскоўскі, П.Мядзёлка і А.Якубецкі не мелі латышскага грамадзянства. І.Краскоўскі і П.Мядзёлка жылі па літоўскіх пашпартах. Іх усіх звольнілі з пасады, а тымчасовым дырэктарам гімназіі прызначылі П.Жэрдзія. Пасля вобыскаў, арыштаў, другіх допытаў 3.III.1925 года адбыўся судовы працэс над настаўнікамі гімназіі. Пры ўсім намаганні ўлады не маглі даказаць абвінавачаным процідзяржаўную дзейнасць, і ўсе былі апраўданы. На допыты як сведкаў клікалі і вучняў, яны трымаліся вельмі добра і давалі праўдзівыя адпаведзі. У залу суда дапускалі толькі выбраных вучняў, маім братам зусім не дазволілі ўваходзіць у будынак суда. Нягледзячы на апраўданні, І.Красоўскі, П.Мядзёлка і А.Якубецкі не маглі далей працаваць у гімназіі і наогул жыць у Латвіі. Летам 1925 года наша сям'я выехала з Дзвінска ў Савецкую Беларусь, у Мінск. Я засталася жыць у Чэхаславакіі, дзе цэлае жыццё працавала ў Славянскім народным музеі ў Браціславе.

**Людміла КРАСКОЎСКАЯ.**





**НА ЗДЫМКАХ: вучні Беларускай дзвінскай гімназіі з пастаноўкай у вёсцы Пустыня (Робежнікі). 1929 год; пастаноўка драмы Я.Купалы "Раскіданае гняздо" (1928 год). У ролі Паніча сын дырэктара гімназіі С.Сахарава— Дзмітрый.**

313

Ужо ў 1933 годзе камуністычнае кіраўніцтва Беларусі выдала дэкрэт аб рэформе беларускай мовы, якая надта ж яе скалечыла. У гэтым можна пераканацца, калі параўнаць гаворку беларускага эмігранта і сучасных жыхароў Беларусі. Змены і спрашчэнні праводзіліся не дзеля ўдасканалення правапісу, пашырэння ўплыву і аўтарытэту беларускай мовы, а дзеля максімальнага яе набліжэння да рускай. Такая штучна набытая блізкасць стала потым пагрозлівай зброяй русіфікацыі беларусаў.

**АРЫШТЫ КНІГ.** Пра тое, што Гітлер і яго спадручныя палілі і знішчалі кнігі, ведаюць многія. Але тое ж рабілася Сталіным і яго памагатымі ў нашым краі. Бібліятэкам даводзіўся кантрольны спіс выданняў, якія падлягалі тэрміноваму знішчэнню. У спісе 1935 года значылася 1 778 назваў кніг. Такія спісы складаліся штогод, а то і па некалькі разоў на год аж да апошніх дзён камуністычнага панавання.

**РУЙНАВАННЕ АКАДЭМІЧНАЙ НАВУКІ.** Беларуская акадэмія навук у 30-я гады практычна аказалася разгромленай. Рэпрэсіям падвергласа 26 акадэмікаў і 6 членаў-карэспандэнтаў. У 1938 годзе засталося ўсяго 6 аспірантаў з 139, якія меліся ў 1934 годзе. Арыштоўваліся не толькі навуковыя супрацоўнікі, але іх кнігі і тэмы. У 1937 годзе была забаронена праца над Беларускай энцыклапедыяй, якая папулярызавала "ворагаў народа". Перастала фінансавацца тэма "Эканамічнае апісанне раёнаў БССР", якая бdensдышам бы выконвалася ў шпіёнскіх мэтах. У выдавецкіх планах Інстытутаў гісторыі і літаратуры на 1932--1937

314

гады значылася 200 кніг, а свет пабачыла толькі 29, з якіх 23 трапіла пад забарону. Інстытуты філасофіі і эканомікі ў 1938 годзе ўвогуле закрылі. Гуманітарныя навукі поўнасцю падпарадкоўваліся бальшавіцкай імперскай ідэі.

Шмат хто з навуковай інтэлігенцыі і студэнцтва Савецкай Беларусі не падтрымліваў сталінскіх установак на фарсіраванне калектывізацыі і індустрыялізацыі. У рамках марксісцкай тэорыі спрэчкі вакол альтэрнатыўнага шляху пабудовы сацыялізму вяліся ў Акадэміі навук, Горыцкай сельскагаспадарчай акадэміі, Мінскім педінстытуце. Але гэта ўспрымалася бальшавікамі як варожая дзейнасць. Толькі Акадэмія навук БССР страціла не менш як 100 вучоных (сярод іх сусветна вядомы геафізік М.Бліадуха). Вынішчыўшы беларускіх навукоўцаў, ЦК КП(б)Б ставіў у 1933 годзе пытанне аб прысылцы ўзамен іх чужынцаў з Расіі.

**ГВАЛТАВАННЕ І РАЗБЭШЧВАННЕ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ.** Цяжкія выпрабаванні выпалі і на долю беларускіх пісьменнікаў. Іх арышты пачаліся з 1930 года. Мясцовая адміністрацыя маскоўскіх бальшавікоў пазбавіла беларускую літаратуру ўсялякай падтрымкі. У 1932 годзе часопіс "Маладняк" не меў свайго памяшкання, а ў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва" не было нават свайго стала. Па 4 месяцы не выплачваліся ганарары. Літаратурныя часопісы валяліся ў друкарнях па 3--4 месяцы. Малады літаратары скардзіліся ў ЦК КП(б)Б, што за ўвесь 1932 год з прамтаваў на пісьменніцкую арганізацыю ўлады выдзелілі толькі адны штаны. У 1932 годзе баль-

315

шавікі фактычна праігнаравалі 50-гадовы юбілей Янкі Купалы. У тым жа годзе паўстаў Саюз савецкіх пісьменнікаў Беларусі, створаны замест ранейшых вольных літаратурных аб'яднанняў. Яго кіраўніцтва атрымала доступ да ўрадавага размеркавальніка, каб ахвотней падпарадкоўвалася партыйным дырэктывам. З такой жа мэтай пазней былі створаны і Саюзы кампазітараў, мастакоў, архітэктараў.

Цяжкая атмасфера запанавала ў асяроддзі беларускіх пісьменнікаў. Працягвалася траўля Купалы і яго прыяцеляў -- Броўкі, Кучара, Баранавых. Адмяжоўваліся ад грамадскалітаратурнага жыцця Я.Колас і З.Бядуля. Моладзь клялася ў адданасці камуністычнай партыі. Пачаліся ўзаемаабвінавачванні і даносы. Набіраў сілу генеральны бальшавіцкі крытык Бэндэ. Рэвалюцыйная адданасць і класавае пачуванне да ворагаў замянялі яму прафесіяналізм, эрудыцыю і агульную культуру. Усякая гістарычная тэма з жыцця беларускага народа аб'яўлялася нацыяналістычнай. Можна было толькі ўхваляць шчаслівую сацыялістычную рэчаіснасць і слаўнае рэвалюцыйнае мінулае.

Стараннямі такіх рэакцыянераў, як Бэндэ, праз сталінскія засценкі прайшло больш 100 беларускіх пісьменнікаў, з якіх палавіна загінула, у тым ліку М.Гарэцкі, М.Кудзелька (Чарот), А.Дудар, М.Касянкоў (Зарэцкі), П.Галавач, іншыя. Новы сакратар ЦК КП(б)Б Панамарэнка асабіста прасіў у канцы 1938 года ў Сталіна дазволу расправіцца з Я.Купалам і Я.Коласам. Але непрадказальны тыран загадаў узнагародзіць

316

вялікіх беларускіх песняроў ордэнамі Леніна.

**ТЭАТРЫ ПАД НАГЛЯДАМ.** Наступленне на беларускае мастацтва пачалося з тэатральнай дыскусіі 1938 года. Пад абстрэл трапіў артыкул Хведара Глыбоцкага аб самабытнасці тэатральнага мастацтва Беларусі. Аўтар абвінавачваўся ў адрыве беларускай пралетарскай культуры ад рускай. Заадно дасталася і З.Жылуновічу за тое, што той не стаў на абарону партыйнай лініі. У 1932 годзе ў БССР налічвалася 16 тэатраў, у тым ліку яўрэйскі, польскі, рускі. Але ад іх усё больш патрабавалася паўтарэння маскоўскіх рэпертуараў на нацыянальных мовах. З трох беларускіх дзяржаўных тэатраў у 1938 годзе засталося два -- у Мінску і Віцебску. Гомельскі БДТ бальшавікі закрылі, а яго кіраўніка вядомага артыста, рэжысёра і драматурга У.Галубка кінулі ў турму. Акцёраў для Беларусі рыхтавала Масква. І толькі ў 1938 годзе адкрылася Мінскае тэатральнае вучылішча.

**МАСТАЦТВА З САВЕЦКАГА ІНКУБАТАРА.** Іншыя віды мастацтва набылі размах толькі ў гады бальшавіцкага панавання. Яны развіваліся як савецкія, практычна па-за нацыянальнымі традыцыямі. Доўга, да 1939 года, узводзіўся ў Мінску будынак тэатра оперы. Маскоўскія паслугачы ніяк не маглі ўхваліць рэпертуар тэатра. У Мінскім музычным вучылішчы працавалі "ворагі народа". Адкрытая ў 1932 годзе кансерваторыя рабіла толькі першыя выпускі. У Саюзе кампазітараў ішлі сваркі, і яго нават знялі на паўгода (1938 год) з дзяржаўнага фінансавання (за дрэнныя паводзіны бальшавікі не плацілі). Але нарэшце з'явіліся рэвалюцыйныя оперы

*Захар ШЫБЕКА*

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX СТАГОДДЗЯХ

## (РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

317

Я.Цікоцкага, А.Багатырова, балет М.Крошнера. І толькі опера А.Туранкова "Кветка шчасця" па матывах драмы М.Чарота "На Купалле" не адрывалася ад нацыянальнай глебы.

Працавала дзяржаўная філармонія.

Да 1938 года Віцебскі мастацкі тэхнікум выпусціў каля 300 майстроў. Таленавітыя скульптары А.Грубэ, Брозэр, А.Бембель ужо ляпілі бюсты правадыроў і рэвалюцыянераў, а З.Азгур яшчэ і бюсты Я.Купалы, Я.Коласа. Прыступалі да творчасці першыя не менш таленавітыя мастакі так званага сацыялістычнага рэалізму М.Манасзон, У.Волкаў, Я.Зайцаў. І ў той жа час карціны Рэпіна, Айвазоўскага валяліся ў мокрых падвалах музеяў, якія ў БССР да 1934 года не абаграваліся ўвогуле. Большасць краязнаўчых музеяў у пачатку 30-х гадоў пазакрывалася, а іх рэчы параскрадаліся. Распалася краязнаўчая арганізацыя.

Вельмі папулярным і даступным відам мастацтва было кіно. Перад вайной у Мінску запрацавала кінастудыя "Савецкая Беларусь", пачалося рэгулярнае вяшчанне мясцовага радыё. З рук Масквы мы атрымлівалі тое, што цывілізаваныя і вольныя народы даўно ўжо мелі. Да таго ж падараваныя нам культурныя здабыткі павінны былі служыць замацаванню на Беларусі прамаскоўскага бальшавіцкага рэжыму.

**ВЫНІШЧЭННЕ РЭЛІГІЙНАСЦІ.** На праваслаўным Саборы 1923 года царква падтрымала сацыялістычную рэвалюцыю і прызнала капіталізм смяротным грахом. Але гэта не выратавала яе. Створаны ў 1929 годзе па ініцыятыве бальшавікоў Саюз бязбожнікаў раз-

318

гарнуў барацьбу з рэлігіяй па ўсёй імперыі. Камуністы ўшчэнт разграмілі праваслаўную царкву на Беларусі. З 1 445 дарэвалюцыйных цэркваў летам 1938 года дзейнічала толькі дзве -- у Оршы і Мазыры. У адпаведнасці са сталінскай канстытуцыяй 1936 года цэрквы перараблялiся ў клубы, а то і ў свірны. За 1937 год і першую палову 1938-га было арыштавана 3 247 вернікаў, у тым ліку 400 святароў і манахаў, 5 архіепіскапаў і мітрапаліт. Беларуская праваслаўная аўтакефальная царква аб'яўлялася шпіёнска-паўстанцкай арганізацыяй. Усе яе святары на чале з архіепіскапам Афанасіем Вячоркам станавіліся ворагамі народа. У тыя ж пагрозлівыя 1937--1938 гады ў кіпцюры бальшавіцкіх карных органаў трапіла амаль 860 сектантаў, 58 гомельскіх старавераў. Што тычыцца каталіцкай царквы, дык яна была разгромлена яшчэ ў 20-х гадах.

Рэлігія заставалася амаль што адзінай формай пратэсту змардаванага народа. Сектанты-маўчальнікі Лепельскага і Тураўскага раёнаў не размаўлялі з прадстаўнікамі савецкай улады, адмаўляліся ад савецкіх пашпартоў, байкатавалі выбары, сталінскія калгасы і перапісы насельніцтва. Прызнавалася толькі ўлада Бога. У 1937 годзе ў Шклоўскім, Дрыбінскім, Чавускім раёнах разгарнулася масавы рух за вяртанне захопленых уладамі цэркваў -- 90 тысяч вернікаў не пабаяліся паставіць свае подпісы пад патрабаваннем адкрыцця святых храмаў. Потым 24 тысячы з тых, хто падпісаўся, былі арыштаваны.

**РЭШТА ЗАХАВАНАЙ БЕЛАРУСКАСЦІ.** Такім чынам, у 30-я гады элітарны культурна-духоўны

319

працэс у Савецкай Беларусі канчаткова падпаў пад кантроль Масквы і не мог ажыццяўляцца ў нацыянальных формах. Калі пад уладай Польшчы беларускія сілы яшчэ змагаліся за захаванне права на самавыяўленне, то ў БССР пераважна адракаліся ад яго ў імя сацыялізму, сусветнай рэвалюцыі, асабістага дабрабыту, які залежаў ад паслухмянасці прамаскоўскай адміністрацыі. Што тычыцца ўсходнебеларускіх земляў, што былі далучаны да РСФСР, то там увогуле ўсякае культурнае жыццё беларусаў забаранялася.

На беларускіх касцях нарастала рускае мяса. Але пакуль жыла беларуская вёска, захоўвалася і культура народа. У 1940 годзе з ёю (ткацтва, кераміка, разьба па дрэву) змаглі пазнаёміцца масквічы падчас Дэкады беларускага мастацтва.

### 29.5. Сэнс і бессэнсоўнасць рэпрэсій

**УСЕАХОПНАСЦЬ РЭПРЭСІЙ.** Ужо ў пачатку 1933 года магчымасці турмаў БССР былі вычарпаны. За кратамі сядзела больш 25 тысяч чалавек. Голад і антысанітарыя прывялі да эпідэмій тыфу ў месцах зняволення Оршы, Віцебска, Мазыра. У 1937 годзе камуністычны тэрор дасягнуў свайго апагею. Арышт азначаў высылку ці смерць. Караліся "беларускія нацыянал-фа-

320

шысты", "правatрацкісты", "польскія шпіёны". Іх абвінавачвалі ва ўдзеле ў розных контррэвалюцыйных, антысавецкіх, дывэрсійных, шпіёнска-тэрарыстычных і паўстанцкіх арганізацыях. Арыштоўвалі за неданясенне аб контррэвалюцыйнай дзейнасці мужа, брата, бацькі, за сувязь з ворагамі народа, з сваякамі, што жылі за мяжой. Шырока выкарыстоўвалася і такое недарэчнае абвінавачванне, як "сацыяльна небяспечны элемент". Асуджаны былі практычна ўсе жонкі "ворагаў народа" на тэрмін ад 3 да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Дзеці гублялі бацькоў ці падзялялі ўсе іх пакуты ў высылцы.

**ГРАМАДСКАЕ ЗАХВОРВАННЕ.** Ніхто не быў застрахаваны ад арышту і пакарання. Даносы і паклёпы рабіліся звычайнай з'явай. Сусед абвінавачваў суседа, падначалены -- начальніка, каб завалодаць чужой маёмасцю, кватэрай, занядь больш цёплае крэсла. Дыктатарскі рэжым выклікаў маральна-псіхалагічную дэградацыю грамадства.

У большасці выпадкаў следчыя дамагаліся ад абвінавачаных прызнання ў злачынствах. Вязні згаджаліся падпісаць сабе нават смяротны прысуд, абы толькі хутчэй пазбавіцца ад нясцерпных пакут. Таму і атрымлівалася, што ў Беларусі кожны другі ці трэці з арыштаваных быў польскім шпіёнам. І гэта выглядала быццам бы праўдападобна, бо Германія і Англія сапраўды імкнуліся падштурхнуць Польшчу на вайну з Савецкай Расіяй.

ЦІ ПАЧУЮЦЬ КАЛІ НА РАДЗІМЕ ГОЛАС ПЯТРА КОНЮХА

# ДАЎНЯЕ, ДАЛЬНЯЕ – НЕДАСЯГАЛЬНАЕ...

Колькі талентаў спарадзіла ты, зямля наваградская, на радасць людзям. Але няўмольны жыццёвы лёс распарадзіўся так, што многім давялося славу здабываць па-за межамі роднага краю. Як маладыя ластаўкі, пакінуўшы гнёзды свае, разляталіся сыны і дочкі па ўсім свеце. З чым пайшлі яны ўдалячынь, якія пачуцці неслі ў сэрцах сваіх? Ці не адракліся ад роднай мовы, ад маці любай Беларусі? Дый ці не стала яна вам, ласкавая і пяшчотная, злоснаю і няшчодраю мачахай? Дзякуй табе, Божа, што не здарылася гэтага! Між вамі былі акіяны, але яна ўсё чакала. І вось вяртаецеся вы, каб паказаць свае здольнасці, здабыткі і дасягненні.

Ён таксама марыў і рыхтаваўся да сустрэчы з табою, Беларусь. Ды час, які ляціць так хутка, няспынна, незваротна раздзяліў Пятра Конюха з Радзімай назаўсёды. Так і не пачула беларуская сцэна славуты оперны бас. Яму апладзіравалі найлепшыя тэатры Еўропы і Амерыкі. Яго школа ў Нью-Йорку была адной з найвядомейшых. Шматлікія турнэ, канцэрты, высокае прызнанне і гарачыя паклоннікі таленту ў розных кутках свету. Шлях да гэтага быў няпростым: гады нястомнай, плённай працы і няспыннае жаданне ўзняцца на вышэйшую прыступку. Што служыла крыніцаю вялікага натхнення, дзе чэрпаў сілы, хто быў побач у хвіліны радасці і смутку? Якія сны бачыў і ці мроіўся яму калі той куток Беларусі -- мястэчка Турэц -- дзе з'явіўся на свет і дзе прайшлі гады дзяцінства?

Каб знайсці адказы на гэтыя пытанні, я накіравалася да роднай сястры Пятра Конюха Марыі Кісцень, якая жыве ў Наваградку.

Лісты, што атрымлівала яна ад брата, былі, па зразумелых прычынах, кароткімі. Спаткацца ж надарылася толькі ў 1972 годзе ў Мінску, куды ён прыехаў у складзе турыстычнай групы. Гэта была першая і, на жаль, адзіная сустрэча. Больш 30 гадоў не бачыў Пётр сваіх родных, не быў на Беларусі. Цікавіла яго ўсё, часам ён дзівіўся, нават і абураўся, што людзі тут цураюцца роднай мовы.

Шмат было і ўспамінаў у тую сустрэчу, і, вядома ж, не абышлося без песні. Пётр заспяваў песню на словы Канстанцыі Буйло "Люблю наш край, старонку гэту". "Няўжо я яшчэ не спяю на беларускай сцэне? -- пытаўся ён і тут жа сам адказваў: -- Спяю, абавязкова спяю". А далей яны спявалі разам, зусім як тады -- у далёкім юнацтве.

Марыя актыўна ўдзельнічала ў самадзейнасці Наваградскай беларускай гімназіі. Што датычыць Пятра, дык з дзяцінства яго прыгожы голас зачароўваў усіх. Да таго ж ён валодаў выдатнымі артыстычнымі здольнасцямі. Пастаноўкі мясцовага драмгуртка з яго ўдзелам карысталіся асаблівай папулярнасцю. У час канікулаў Марыі брат і сястра часта выступалі разам.

Пётр скончыў толькі чатыры класы школы, і сястру вельмі хвалявала, што ён не зможа атрымаць больш грунтоўную адукацыю. Бацькі не маглі паслаць абодвух у гімназію, навучанне ў якой патрабавала немалых сродкаў. Марыя параіла брату падаць заяву на курсы льнаводства ў Вілейцы. Вырошчванне лёну лічылася ў той час вельмі прыбытковай і перспектыўнай галіною гаспадаркі. У 30-я гады ў Польшчы гэтаму надавалася вялікая ўвага, а наваградскі лён вызначаўся высокай якасцю і быў вядомы далёка за межамі ваяводства.

Пётр рызыкнуў і быў прыняты на курсы, нягледзячы на тое, што патрабавалася 7-класная пачатковая адукацыя. Як адзін з найбольш здольных, ён праходзіў практыку ў маёнтку ля Варшавы, дзе яму прапанавалі застацца працаваць. Але па ўласнай просьбе ён быў накіраваны ў Баранавічы. Ён жа дапамог уладкавацца на працу і мужу Марыі, які таксама скончыў курсы ў Вілейцы. Марыя і Васіль марылі аб Наваградку, дзе разам вучыліся ў гімназіі і вельмі палюбілі гэты горад. Але Наваградак быў цэнтрам ваяводства, чыноўнікі, што наехалі сюды з усёй Польшчы, як маглі, чынілі перашкоды праваслаўным.

Марыя добра запомніла першы прыезд Пятра да іх у Наваградак: "Мы былі ўдзячныя брату і шчаслівыя ад таго, што збылася доўгачаканая мара, весяліліся ад душы. А калі заспявалі -- сышліся паслухаць усе суседзі. Потым доўга хадзілі чуткі, што горад наведаў нейкі артыст".

Вайна заспела Пятра Конюха ў Ржэве, куды ён быў накіраваны на курсы. Трапіў у польскую армію генерала Андэрса і разам з ёю прайшоў нялёгкі шлях да Італіі. Браў удзел у слыннай бітве пад Монтэ-Касіна, дзе загінулі сотні палякаў і беларусаў.

Шчаслівы выпадак, які здарыўся з Пятром у Італіі (яго голас выпадкова пачула вядомая італьянская спявачка) вырашыў далейшы ягоны лёс. Як стыпендыят 2-га корпуса Войска Польскага Пётр Конюх застаўся вучыцца ў Рыме.

Пачынаўся новы перыяд у жыцці, які прывёў да поспеху і славы. Пятру пашчасціла сустрэцца з вядомейшымі выкладчыкамі. Зараз ён ведаў сваю мэту і імкнуўся да яе ўсімі сіламі. Акрамя заняткаў музыкай, шмат часу праводзіў у бібліятэках над музычнай літаратурай. Знаходзячыся пад вялікім уражаннем ад славутага Шаляпіна, спявак шукаў сваё творчае непаўторнае "я".

Спачатку Конюх браў удзел у разнастайных конкурсах і канцэртах у Італіі. Потым былі спробы на опернай сцэне. Шырыня дыяпазону голаса, яго моц і тэмбравая афарбоўка дазвалялі па-майстэрску выконваць складанейшыя вядучыя партыі ў операх "Дон Карлас", "Барыс Гадуноў", "Фаўст" і іншых.

Пасля паспяховага турнэ з сольнымі канцэртамі па Еўропе Пётр Конюх накіраваўся ў Амерыку, дзе яго цёпла віталі ў самых прэстыжных залах. Тут жа лёс яго звёў з Сяргеем Жаравым -- кіраўніком знакамітага хору данскіх казакоў. 27 гадоў Конюх з'яўляўся нязменным салістам хору, аб'ездзіў разам з ім амаль увесь свет.

Напрыканцы жыцця, будучы ўжо ў сталым узросце, Пётр Конюх выступаў у царкоўным хоры. "У юнацкія гады, -- успамінала Марыя, -- як і большасць яго аднагодкаў, брат не вызначаўся набожнасцю, хутчэй наадварот. І ўсё ж выступленне ў царкоўным хоры не выпадковасць. У Італіі ён моцна хварэў на тыф. Знаходзячыся ў амаль што безнадзейным стане, скіраваў свае думкі да Бога, сказаўшы сабе: "Калі ачуняю, усё жыццё буду ўдзячны Богу". Калі мы сустрэліся, гэта быў ужо чалавек глыбока веруючы".

Запісы ўсіх сваіх канцэртаў Пётр Конюх збіраў з мэтаю перадаць пры нагодзе на Радзіму. Аднойчы, вярнуўшыся з чарговага турнэ, ён даведаўся, што ўсе стужкі загінулі ў час рамонту дома. Гэта была сапраўдная трагедыя, але ж ён верыў, што прыйдзе час, калі сам зможа спяваць у Беларусі.

Нядаўна з далёкай Канады, дзе жыў Пётр Конюх, прыйшла сумная вестка аб яго смерці. Мара, якая гадамі саграvала душу, напаўняла сэрца гэтага вялікага чалавека, надзеленага ад нараджэння вялікім талентам тварыць прыгожае і дарыць яго людзям, засталася няздзейсненай. Думаючы над гэтым, міжволі ўспамінала словы Гётэ:

**Даўняе, дальняе**
**Сніцца і мроіцца,**
**Недасягальнае**
**Явай узновіцца.**

Як хочацца, каб, здавалася б, ужо недасягальны і чароўны голас Пятра Конюха ўсё ж пачулі і палюбілі на Радзіме.

**Ала СНІТКО.**

# У СТАРАДАЎНІМ АСАБНЯКУ ФОГЕЛЯ





**Амаль пяць гадоў не маглі ўбачыць цалкам экспазіцыю Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея яго наведвальнікі. Час ад часу праводзіліся толькі невялікія выставы. Гэта адбывалася таму, што ішоў рамонт будынка, куды ў 1990 годзе пераехаў музей. Ён размясціўся ў адным са старадаўніх асабнякоў Брэста, які быў пабудаваны ў канцы мінулага стагоддзя і належаў купцу Фогелю. У тыя часы ў ім размяшчаліся тэатр, рэстаран, гасцініца. Тут бывалі Мамант Дальскі, вядомая актрыса Вера Камісаржэўская.**

**І вось нарэшце рэстаўрацыйныя работы скончаны. Вялікія, прасторныя, светлыя залы пачалі запаўняцца экспанатамі, якіх у музеі больш за 150 тысяч. Супрацоўнікі спадзяюцца, што неўзабаве наведвальнікі змогуць з імі азнаёміцца. Першую экспазіцыю тут падрыхтуюць да 50-годдзя Перамогі. Наступныя раскажуць аб мінулым і сучасным Брэстчыны. Адна зала плануецца пад тэматычныя выставы, на якіх будуць дэманстравацца экспанаты з фондаў іншых музеяў рэспублікі.**

**НА ЗДЫМКАХ: адрэстаўрыраваны будынак Брэсцкага краязнаўчага музея; галоўны захавальнік фондаў Людміла ГАПАСЮК і навуковы супрацоўнік Таццяна АРАВА рыхтуюць экспанаты для экспазіцыі.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

ЛІТАРАТУРА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

## "А ЧАСУ БОЛЬШ, ЧЫМ ВЕЧНАСЦЬ"

Такім вось радком Масея Сяднёва названы новы зборнік з твораў беларускага замежжа. У кнігу "Туга па радзіме", якая выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", уваходзіла толькі паэзія. Выдавецтва ж "Юнацтва", рыхтуючы томік з серыі "Школьная бібліятэка", да паэтычных твораў далучыла і прозу. Такім чынам, кнігу "А часу больш, чым вечнасць" склалі вершы Наталлі Арсенневай, Вінцука Адважнага, Алеся Смаленеца, Алеся Змагара, Рыгора Крушыны, Хведара Ільяшэвіча, Уладзіміра Дудзіцкага, Янкі Золака, Уладзіміра Клішэвіча, Масея Сяднёва, Анатоля Бярозкі, Міхася Кавыля, Янкі Юхнаўца, Алеся Салаўя, Сяргея Ясеня, празаічныя творы Юркі Віцьбіча, Міколы Целеша, Аляксандры Саковіч, Уладзіміра Глыбіннага, Кастуся Акулы.

Укладальнік зборніка Барыс Сачанка ў прадмове да кнігі адзначыў: "Пастулова, быццам з далёкага выраю, вяртаецца на Бацькаўшчыну і беларускае замежжа, усё тое лепшае, што было створана там і што было схавана за сямю пячацямі, пра што не дазвалялася не толькі гаварыць, а нават успамінаць".

Тыраж гэтага выдання па серыі "Школьная бібліятэка" -- 10 тысяч паасобнікаў. І мне, як рэдактару выдавецтва, усцешна ўслед за Б. Сачанкам сказаць: "Радасна, што і "Юнацтва" падключаецца да гэтага працэсу -- працэсу вяртання таго, што гадамі хавалася і што па праву належыць усім нам".

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

## ХОЦЬ НАКЛАД І НЕВЯЛІКІ

Усяго 250 паасобнікаў наклад бюлетэня Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Францішка Скарыны "Шляхам Скарыны", ды і размножаны ён на ксераксе, тым не менш, ёсць падставы адзначыць яго змястоўнасць і цікавасць. У бюлетэні (а ён прысвечаны стварэнню ў Маскве беларускага культурнага цэнтра) змешчана разнастайная інфармацыя, пададзеная пад загалоўкам "Гісторыя станаўлення сучаснае маскоўскае беларускае дыяспары ў святле расейска-беларускіх дачыненняў", артыкул "Аб этнічным паходжанні беларусаў", роздум "Якім павінен быць беларускі культурны цэнтр у Маскве", іншыя матэрыялы. Да ўсяго апублікаваны два вершы І.Паўлоўскага -- палкоўніка расійскага войска і беларускага барда.

## ВЯРТАННЕ СЛОВА

Наваполацкае выдавецтва "Дыяна" аб'явіла падпіску на 20-томную кніжную серыю "Літаратура полацкай зямлі".

У яе ўвойдуць літаратурныя творы, не выдадзеныя на працягу многіх стагоддзяў.

Тэксты на стараславянскай і старабеларускай мовах будуць змешчаны з перакладам на сучасную беларускую мову.

# "ЛЕКСІЧНЫ АТЛАС БЕЛАРУСКІХ НАРОДНЫХ ГАВОРАК"

**Атлас складаецца з 5-ці тамоў і з'яўляецца вынікам 20-гадовага вывучэння беларускіх дыялектаў, якое было зроблена ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі.**

**Лексічны атлас уключае каля 2 000 лінгвагеаграфічных картаў, 200 000 слоўнікавых адзінак. Матэрыялы выдання заснаваны на 4 000 назваў аб'ектаў, іх якасці, якія сабраны ў 216 вёсках Рэспублікі Беларусь, 29 з якіх былі размешчаны ў зоне чарнобыльскай аварыі. Атлас унікальны. Падобную работу нельга ўжо аднавіць, бо адбылося адсяленне людзей.**

**Лексічны атлас -- гэта фундаментальная праца па мовазнаўству, якая мае важнае значэнне для беларускай мовы і славістыкі, гісторыі, этнаграфіі і этналогіі.**

Першы том "Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак. Раслінны і жывёльны свет" ужо апублікаваны (368 картаў).

Другі том "Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак. Сельская гаспадарка" выходзіць у першым квартале 1995 года (354 карты).

Трэці том "Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак. Чалавек" рыхтуецца да выдання ў 1995 годзе (293 карты).

Агульны кошт выдання гэтага тома складзе звыш 150 мільёнаў рублёў (паводле цэн на 1 лістапада 1994 года), або 10 тысяч долараў.

Гэты том грунтуецца на тых жа метадалагічных прынцыпах, што і папярэднія два. На картах трэцяга тома паказана тэрытарыяльнае распаўсюджанне лексікі мясцовых гаворак Беларусі, якія маюць дачыненне да асобы чалавека, яго побыту і заняткаў. Сюды адносяцца назвы частак цела чалавека, словы, якія характарызуюць яго знешні выгляд, характар, назвы хвароб і паняццяў асабістай гігіены, тэрміналогія роднасці і сваяцтва, моўных кантактаў, гандлю, абраднасці, маёмасных адносін і іншыя.

Кожная з пералічаных тэм мае сваю спецыфіку. Многія лексемы з тэрміналогіі роднасці ўзыходзяць да старажытнай славянскай агульнасці тыпу **ятроўка, пасербніца.** Назвы знешняга аблічча ўключаюць мноства экспрэсіўна-ацэначнай лексікі.

На пераважнай большасці картаў паказваюцца адносіны паміж рознымі тоеснымі па значэнню назвамі паводле свайго распаўсюджання і раскрываюцца іхнія адносіны па ўтварэнню, а таксама нерэгулярныя фанетычныя і акцэнталагічныя адрозненні паміж імі. Шэраг картаў прысвечаны раскрыццю семантычнай неаднароднасці слоў у гаворках Беларусі. На картах паказана агульнасць і адрозненні параўнальна з назвамі, якія бытуюць у суседніх гаворках.

Прызначаецца атлас для моваведаў, этнографаў, фалькларыстаў, гісторыкаў, краязнаўцаў і ўсіх, хто цікавіцца роднай мовай і культурай Беларусі, а таксама славянствам наогул.

Чацвёрты том "Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак. Побыт" рыхтуецца да выдання, як і пяты "Семантыка, словаўтварэнне і націск".

*Выканаўчая дырэкцыя Фонду фундаментальных даследаванняў Рэспублікі Беларусь з удзелам аўтарскага калектыву на грамадскай аснове ўзялі на сябе абавязак падрыхтаваць да выдання атлас і збіраць сродкі. Фінансаванне ажыццяўляецца часткова за кошт дзяржавы (з Фонду), а таксама за кошт добраахвотных узносаў асобных арганізацый і асобных грамадзян. У сувязі з крызісам эканомікі і сучаснымі фінансавымі цяжкасцямі падрыхтаваны да выдання III том няма магчымасці выдаць без падтрымкі.*

*Звяртаемся да ўсіх беларусаў і тых, хто цікавіцца беларусікай, з просьбай аказаць дабрачынную дапамогу, праявіць салідарную руплівасць аб выданні III тома атласа.*

*Ваш дабрачынны ўдзел у выданні III тома будзе адзначаны на тытульным лісце атласа асобна: "Выданне трэцяга тома Атласа стала магчымым дзякуючы фінансавай дапамозе (такога Фонду)" або з указаннем прозвішча асобы ў шэрагу іншых людзей, добразычліўцаў стаўлення да выдання атласа.*

**Наперад сардэчна дзякуем.**

**ЗАКАЗЫ ПРОСІМ ДАСЫЛАЦЬ У ВЫКАНАЎЧЫ ФОНД ФУНДАМЕНТАЛЬНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА АДРАСУ:**

**220072, г.МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф.СКАРЫНЫ, д.66, п.406. ФОНД ФУНДАМЕНТАЛЬНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. ТЭЛЕФОН: 39-48-90, 39-56-52, 39-57-22.**

**НАШЫ РЭКВІЗІТЫ:**

**1. ФОНД ФУНДАМЕНТАЛЬНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ N 700514 (ЛЕКСІЧНЫ АТЛАС) У КАМЕРЦЫЙНЫМ БАНКУ "БЕЛАРУСЬ" г.МІНСКА, КОД 795.**

**2. 220004, г.МІНСК, вул. ЗАСЛАЎСКАЯ, 10. БЕЛЗНЕШЭКАНОМБАНК, РАЗЛІКОВЫ РАХУНАК 268070645/001.**

# У МІНСК ШЛЯХАМІ БАЦЬКІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).



Праз некалькі дзён на варшаўскай кватэры адбылася сустрэча з самой Нікай, зграбнай, энергічнай спадарыняй сярэдняга ўзросту. Яна падаравала сваю кнігу, доўга распытвала пра Мінск, дзе ніколі не была. І, канешне, абяцала прыехаць у Беларусь, наведаць Мінск і Вілейку, дзе жыла з бацькамі некалькі месяцаў у пачатку другой сусветнай вайны. Пазіраючы на дачку мастака, на яе рысы, вельмі падобныя на бацькоўскія, падумаў, што нічога выпадковага не бывае, а агульныя намаганні розных людзей, хоць яны жывуць у розных краінах і не ведаюць адзін пра аднаго, заўсёды прыносяць плён. Трэба, каб яднала агульная высокая мэта. А тады іх шляхі перакрыжоўваюцца і яны знаходзяць магчымасць супрацоўнічаць.

У 1993 годзе было многа зроблена для папулярызацыі творчасці мастака на Беларусі. Артыкулы, выступленні па радыё і тэлебачанні, канферэнцыя ў Беларускім нацыянальным мастацкім музеі навукоўцаў і мастакоў адыгралі сваю немалую ролю. Па сутнасці, было вернута імя славутага творцы ў наша айчыннае мастацтва, якое мы зараз разглядаем па-новаму, без ідэалагічных абмежаванняў. На жаль, спадарыня Ніка не здолела прыняць удзел у канферэнцыі, бо (звычайная зімовая сітуацыя) прастудзілася, захварэла.

Між тым цікавасць да Стрэмінскага не слабела. Ды і як можна было не ўзрушыцца тым, што Мінск мае свайго выдатнейшага мастака, якім трэба ганарыцца й ганарыцца! Гэта быў асаблівы чалавек, адораны воляй і талентам. На першай імперыялістычнай вайне ён быў цяжка паранены, застаўся на ўсё жыццё інвалідам без рукі і нагі, фактычна з адным відушчым вокам. Але пачаў сцвярджаць сябе як мастак-наватар, пазнаёміўшыся з Казімірам Малевічам. У 1919 годзе ён плённа працуе ў родным Мінску ў рэчышчы супрэматычных, іншымі словамі, абстрактных форм. А потым пераязджае ў Смаленск, горад, у той час вельмі звязаны з Беларуссю культурна і палітычна, дзеля настаўніцкай дзейнасці. Тут ён ажаніўся з таленавітай і клапатлівай мастачкай Кацярынай Кобра, што дапамагала яму ва ўсіх адносінах: падтрымлівала, шчыра кахала, рупілася. Яны разам утварылі філію УНОВІСа, калі ў Віцебску К.Малевіч кіраваў гэтай суполкай як з своеасаблівага творчага штаба.

З 1922 года Стрэмінскія пераязджаюць у Заходнюю Беларусь, бо адчулі, што новае мастацтва пачынае сустракаць актыўную адмоўную рэакцыю камуністычнай улады. У Вільні і Вілейцы мастак ладзіць першую выставу, шукае свайго творчага, ні з чым непараўнальнага адкрыцця. І знаходзіць! У 1928 годзе выдаецца яго брашура "Унізм у жывапісу", дзе ён выкладае асновы плоскаснага разумення прынцыпаў сучаснага жывапісу. Адсюль -- і сама назва, што падкрэслівае стылістычную еднасць, узважанасць, прастату ўсіх каляровых, лінейных і рытмічных сродкаў адлюстравання. Гэта вядзе ў жывапісе, а потым і ва ўсіх іншых відах мастацтва і архітэктуры да гарманічных вобразных вырашэнняў, якія фарміруюць новы стыль сучаснага жыцця, годны, арганізаваны, незалежны ад безгустоўшчыны і кансерватызму.

Стрэмінскі быў і першым мастаком-уністам. Яго жывапісныя, графічныя, архітэктурныя кампазіцыі-праекты далі доказ слушнасці і дасканаласці яго тэарэтычных канцэпцый. У 30-х гадах ён пасяляецца ў Лодзі, стварыўшы ў гэтым горадзе Музей сучаснага мастацтва, аб'яднаўшы вакол сябе аднадумцаў. Вось толькі вайна перапыніла яго творчыя планы. Ён вяртаецца ў Вілейку, сустракае там вызваленне Заходняй Беларусі 1939 года. Нягледзячы на цяжкія пабытовыя ўмовы, выкладае ў мясцовай гімназіі, актыўна працуе над графічным цыклам у стылі унізму пад назваю "Заходняя Беларусь". Але заставацца далей на роднай зямлі становіцца небяспечна. Ужо пачынаецца жудасны "хапун", як называлі ў народзе палітыку сталінскага генацыду. Мастак скарыстаў дакументы, што яго жонка мае нямецкае паходжанне па лініі дзеда фон Кобро, і вяртаецца ў акупіраваную гітлераўцамі Лодзь. Там ён, як можа, зберагае свае творы, працуе над новымі уністычнымі кампазіцыямі, хоць гэта было небяспечна. Фашыстоўская ідэалогія, як і сталінская, была вельмі агрэсіўная ў адносінах да мастацтва наватараў. Гэта было рызыкай, але Стрэмінскі не мог паступіцца сваімі надзвычай плённымі ідэямі.

Не менш трагічнымі выглядаюць яго апошнія пасляваенныя гады. Камуністычныя ўлады, што ўмацаваліся ў Польшчы напрыканцы 40-х гадоў, распачалі лютае цкаванне мастака і яго жонкі. Спачатку згасае яна, а праз год і Стрэмінскі. Толькі ў канцы 50-х гадоў удалося аднавіць свядома "забытае" ў Польшчы імя творцы.

Як прыгадвае дачка мастака, яна толькі апошнія 10 год пачала збіраць матэрыялы аб бацьках. Раней не было магчымасці. І прыезд на Беларусь у красавіку 1994 года стаў для яе вялікай падзеяй, як і для беларускай грамадскасці. Ніка без стомы шукала сляды бацькі ў Мінску. На жаль, няма дома, дзе жыла яго сям'я на вуліцы Кастрычніцкай (раней Гарбарнай), але застаўся па-даўняму Верхні горад, дзе ён правёў дзяцінства, дзе потым працаваў. Дарэчы, ён быў хрышчаны ў касцёле Святой Тройцы на Залатой Горцы. Там жа, на знішчаных пасля 1945 года каталіцкіх могілках, пахаваны быў яго бацька. Узрушаная Ніка, поўная перажыванняў і толькі ёй зразумелых уражанняў, доўга хадзіла па гэтых шматзначных для яе мясцінах. А потым яна наведала і Вілейку. Нягледзячы на ваенныя разбурэнні, стары горад з яго былой цэнтральнай вуліцай добра захаваўся. Нат былая гімназія, дзе працаваў бацька, стаіць на тым жа месцы.

Былі наладжаны шматлікія сустрэчы ў Мастацкім музеі, Акадэміі навук Беларусі, Беларускай акадэміі мастацтваў, у Энцыклапедыі, іншых культурных установах. Ніка неаднойчы прызнавалася, што такой цёплай сустрэчы яна яшчэ нідзе не мела.

"То, мабыць, так і павінна быць на радзіме", -- дадавала яна. Бацька, на яе перакананне, належыць як мастацтву Польшчы, так і Беларусі. Ён, паводле яе слоў, не хаваў сваё беларускасці, часта размаўляў, як яна памятае, на беларускай мове з нашымі выхадцамі-мігрантамі, якіх ведаў у Лодзі.

І бадай, яшчэ адной нечаканасцю для дачкі мастака было яе знаёмства з эскізам студэнта 5-га курса аддзялення скульптуры Беларускай акадэміі мастацтваў Андрэя Копача, які прысвяціў яго памяці Стрэмінскага, пакутніка за свабоду мастацтва. Ён плануе працаваць над гэтым вобразам для горада Вілейкі. Вядома, такія вобразы ў скульптуры і іншых матэрыялах павінны аздабляць вуліцы і плошчы Мінска, Вільні, Смаленска, Лодзі, дзе мастак пакінуў свой творчы след.

Але наперадзе яшчэ вельмі шмат спраў. Не проста паказаць рэтраспектыўную выставу Стрэмінскага ў Мінску, нестае сродкаў, каб праводзіць сталыя творчыя сустрэчы міжнароднага характару "Памяці Стрэмінскага" ў Мінску і Вілейцы, патрабуецца час, каб выдаць у Беларусі яго тэарэтычныя працы, і да т.п. Але той, хто баіцца сваіх фантазій і самых смелых задум, ніколі іх не дасягне. Таму будзем марыць, спадзявацца і працягваць рабіць агульную справу, вартую вялікага сына беларускае зямлі.

**Яўген ШУНЕЙКА.**

**НА ЗДЫМКАХ: Ніна СТРЭМІНСКАЯ з Андрэем КОПАЧАМ; працы Уладзіслава СТРЭМІНСКАГА з цыкла "Беларус заходні", 1939 г.**









## БЯРЭЗІНСКАМУ ЗАПАВЕДНІКУ – 70 ГАДОЎ

**Створаны ў 1925 годзе для аховы рэдкіх відаў фауны і унікальных экалагічных сістэм Беларусі, ён стаў сёння адным са значных навуковых і прыродаахоўных цэнтраў Еўропы.**

**Статус біясфернага, атрыманы запаведнікам у 1979 годзе, вызначыў напрамкі навуковай дзейнасці яго супрацоўнікаў. У аснову пакладзена распрацоўка аховы і рацыянальнага выкарыстання прыродных экалагічных сістэм, вывучэнне структуры і дынамікі развіцця лясоў Верхнебярэзінскай нізіны, стварэнне комплексу мерапрыемстваў па захаванню і абнаўленню асноўных кампанентаў біясферы гэтага геаграфічнага рэгіёна.**

**Расшыраецца супрацоўніцтва калектыву вучоных Бярэзінскага запаведніка з ЮНЕСКА, Саветам Еўропы, рознымі прыродаахоўнымі арганізацыямі. Ландшафтная разнастайнасць, багацце раслiннага і жывёльнага свету прыцягваюць сюды спецыялістаў многіх краін. У ліку першых наладзілі дзелавыя кантакты вучоныя французскага запаведніка "Паўночныя Вагезы". У гэтыя зімовыя дні група іх пад кіраўніцтвам Жана-Клода Жэно вывучае ў Бярэзінскім запаведніку ўмовы жыцця зуброў, ваўкоў, ласёў, мядзведзяў.**

**Высокі ўзровень навуковай работы, якую праводзяць супрацоўнікі, па вартасці ацэнены еўрапейскім супольніцтвам: Бярэзінскі запаведнік узнагароджаны дыпломам Савета Еўропы.**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: французскія вучоныя і работнікі запаведніка вядуць назіранне за зубрамі; статак зуброў; воўк -- "штатны" насельнік запаведніка.**

**Фота аўтара.**

## ДА ЎСІХ ЗАЦІКАЎЛЕНЫХ

*Шаноўны спадар!*

*Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны пры ўдзеле Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, Акадэміі навук Беларусі, Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны праводзяць 18--19 траўня 1995 года ў Мінску II Нацыянальную канферэнцыю "Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі".*

*На канферэнцыі будуць разглядацца тэарэтычныя і дастасоўныя праблемы распрацоўкі, сістэматызацыі і практычнага выкарыстання беларускай навуковай тэрміналогіі ў розных галінах навукі, тэхнікі і народнай гаспадаркі. Працу канферэнцыі плануецца арганізаваць у форме пленарных пасяджэнняў і работы тэматычных секцый. Матэрыялы канферэнцыі будуць апублікаваны ў выніковым зборніку.*

*Аргкамітэт запрашае вас прыняць удзел у канферэнцыі. Заяўку на ўдзел трэба падаць да 1 сакавіка 1995 года на адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, ТБМ імя Ф. Скарыны, аргкамітэт тэрміналагічнай канферэнцыі. Просім паведаміць назву вашага даклада (і дадаць кароткую анатацыю яго зместу аб'ёмам да 1/2 старонкі), а таксама звесткі пра ваша месца працы і пасаду, навуковую ступень і навуковае званне, службовы і хатні адрас і тэлефоны.*

*Кантактныя тэлефоны аргкамітэта: 33-25-11, 39-50-61 (старшыня аргкамітэта Язэп СТАПАНОВІЧ), 39-44-47 (сакратар аргкамітэта Святлана БЕЛЬСКАЯ).*

**Нашага земляка ў Фінляндыі, выдатнага беларускага мастака Алеся Ахола-Вало, віншуем з паважным юбілеем -- 95-годдзем з дня нараджэння. Зычым моцнага здароўя, бадзёрасці, творчага плёну, хуткага спаткання з Бацькаўшчынай.**

**Калектыў рэдакцыі "Голасу Радзімы".**

## ЗАПАВЕТ КАЛІНОЎСКАГА

*Словы Алеся СТАВЕРА* — *Музыка народная*




**Векавая дуброва днём і ноччу шуміць.**
**Каліноўскага голас у дуброве гучыць.**

**-- Гэй, браты-беларусы! Я вам раду даю, --**
**-- Беражыце, браточкі, вы Айчыну сваю.**

**Хай кукуе зязюля, хай вам ліча гады,**
**Хто Айчыну шануе, -- не зазнае бяды.**

**Шанаваць трэба мову і бацькоўскі свой род,**
**Каб не згінуў ніколі беларускі народ.**

**Векавая дуброва днём і ноччу шуміць.**
**Каліноўскага голас у дуброве гучыць.**

## *СПОРТ*

ФУТБОЛ. У сезоне 1995--96 гадоў адразу чатыры беларускія клубы будуць удзельнічаць у розыгрышах еўрапейскіх Кубкаў. Гэта мінскае "Дынама", магілёўскі "Днепр", "Маладзечна" з аднайменнага раённага цэнтра і ўладальнік Кубка Рэспублікі Беларусь, які вызначыцца летам.

ТЭНІС. Ад спаборніцтва да спаборніцтва расце майстэрства мінчанкі Наталлі Зверавай. Вось і нядаўна на адкрытым першынстве Аўстраліі наша зямлячка атрымала тры перамогі і ўвайшла ў васьмёрку мацнейшых.

Яшчэ больш удала выступіла яна ў пары з пастаяннай партнёршай амерыканкай Д.Фернандэс. Спаборніцтвы яшчэ працягваюцца, а пакуль гэты інтэрнацыянальны дуэт дайшоў ужо да паўфіналу.

ШАХМАТЫ. З далёкай Індыі прыйшло пацвярджэнне, што горад Сангінагар гатовы прыняць удзельнікаў паўфінальных матчаў прэтэндэнтаў на званне чэмпіёна свету. Упершыню за ўсю гісторыю развіцця шахмат у такіх спаборніцтвах прыме ўдзел і беларускі гросмайстар Барыс Гельфанд. Для выхаду ў фінал яму трэба перамагчы самога Анатоля Карпава.

БІЯТЛОН. Стабільна выступаюць на розыгрышы Кубка свету беларускія спартсмены. На апошнім этапе, які прайшоў у нямецкім горадзе Оберхофе, Святлана Парамыгіна была пятай на дыстанцыі 15 кіламетраў, а на дваццатцы Ігар Хахракоў заняў сёмае месца.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 5. Падпісана да друку 30. 1.1995 г.